Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 18 (4613) 6 мая 2011 г.

## Са Святам Перамогі!

66 год назад увесь савецкі народ пасля бясконца доўгіх і крывапралітных баёў аб'яднала адна на ўсіх радасць — перамога над фашысцкай Германіяй. І ўсе гэтыя мірныя гады мы жывём, захоўваючы ў сэрцах памяць пра тую вайну, жудасную паводле размаху і страт, жорсткую і бязлітасную.

Усё далей адыходзіць ад нас Вялікая Перамога, але мы па-ранейшаму памятаем, якой цаной яна дасталася нашым дзедам, а для сучаснага маладога пакалення ўжо і прадзедам. А таму кожны год усе беларусы адзначаюць Дзень Перамогі — свята, якое і сёння "са слязьмі на вачах". 9 Мая — самая памятная і ўрачыстая дата нашай гісторыі, якая сімвалізуе веліч, гераізм і самаадданасць беларускага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Словы шчырай і бясконцай удзячнасці мы адрасуем ветэранам, што і сёння побач з намі, і аддаём даніну памяці і павагі тым, каго няма. Нізкі паклон франтавікам, падпольшчыкам і партызанам, працаўнікам тылу — усім, хто каваў вялікую Перамогу.

Але не толькі словамі, а і канкрэтнымі справамі мы можам аддзячыць героям той вайны — захаваўшы незалежнасць Беларусі і не страціўшы таго, што было заваявана такой дарагой цаной — мільёнамі жыццяў нашых суайчыннікаў. Тым больш што ў кантэксце апошніх падзей пытанне нашага спакою і мірнага жыцця паўстае даволі актуальным.

Жыве памяць — у дакументах, сухіх і статыстычна-статычных, і ва ўспамінах сведак, эмацыянальных і да глыбіні душы кранальных. Яна ў кінастужках, фотаздымках, карцінах, музыцы… Яна ў творах, бадай, усіх беларускіх пісьменнікаў другой паловы мінулага стагоддзя, да яе звяртаюцца і сучаснікі, маладое пакаленне. Васіль Быкаў, Янка Брыль, Іван Шамякін, Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў, Алесь Савіцкі, Васіль Гурскі… Чытаеш іх творы, і паўстаюць не невядомыя табе людзі, а чалавек, падобны на цябе. Ён гэтак жа, як і мы, жыў звычайным жыццём, выхоўваў дзяцей, спадзяваўся і марыў… У гэтым канкрэтным чалавеку — боль усяго народа і яго мужнасць. Кожны аўтар, безумоўна, па-свойму, індывідуальна падыходзіць да тэмы вайны, але ўсе яны аб'яднаны памяццю сэрца, моцным жаданнем уваскрэсіць бессмяротны подзвіг нашага народа. І адметна, што гэта тэма ўзнімаецца і пераасэнсоўваецца і сучаснымі маладымі пісьменнікамі.Тэма, як і подзвіг народа Беларусі, вечная. А самі творы — своеасаблівы помнік загінуўшым і ўрок нам.

Аглядаючыся на мінулае, мы павінны дбаць пра дзень заўтрашні, пра тое, што пакінем нашчадкам. І сярод галоўных скарбаў, якія былі дараваны нам і якія мы павінны перадаць дзецям, — свабодная і мірная Радзіма. А яшчэ — наша гісторыя. Трагічная і гераічная. Гэта гісторыя жыве і ў мастацкіх творах, бо "напісанае — застаецца".

У гэты святочны дзень, Дзень Перамогі, усім беларусам хочацца пажадаць аптымізму, бадзёрасці духу, дабрабыту і, канечне, мірнага неба над галавой.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

# З адказнасцю за слова, кадр, сюжэт

*Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Кастуся Дробава*

**З 4 па 7 мая ў выставачным цэнтры "БелЭКСПА" (вул. Я. Купалы, 27) праходзіць XV Міжнародная спецыялізаваная выстаўка "СМІ ў Беларусі", арганізатарамі якой з'яўляюцца міністэрствы інфармацыі і замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь, Беларускі саюз журналістаў, Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку, Тэлекамунікацыйны галіновы саюз, РУП "Дом прэсы" і НВЦ "БелЭКСПА". На форуме прадстаўлена каля 600 СМІ з васьмі краін свету. У гэтым годзе ганаровым госцем з'яўляюцца СМІ г. Масквы.**



У прывітальным слове Кіраўніка дзяржавы А. Р. Лукашэнкі, якое агучыў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, падкрэслівалася: "Прэсу нездарма называюць "чацвёртай уладай", яе роля ў фарміраванні грамадскай думкі — ключавая. Таму чэснасць і аб'ектыўнасць кожнага журналіста — важны фактар сацыяльна-палітычнай стабільнасці ў дзяржаве. Ваш абавязак — несці людзям узважаную і дакладную інфармацыю, адчуваючы ўсю меру адказнасці за любое слова, кадр і сюжэт. Выстаўка будзе садзейнічаць рашэнню актуальных задач, якія стаяць перад айчыннымі сродкамі масавай інфармацыі, а таксама паспрыяе далейшаму пашырэнню міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы друку, радыё і тэлебачання".

Права разрэзаць чырвоную стужку атрымалі першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі і намеснік кіраўніка Дэпартамента сродкаў масавай інфармацыі і рэкламы Урада Масквы Юлія Казакова. І гэта невыпадкова — падчас урачыстасцей падпісана пагадненне Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь з Дэпартаментам СМІ і рэкламы Урада Масквы аб супрацоўніцтве ў 2011 — 2012 гадах.

Інтарэс да Беларусі адлюстраваны на старонках многіх выданняў суседніх краін — яны маюць дадаткі, прысвечаныя падзеям у нашай рэспубліцы. Беларускія СМІ таксама імкнуцца інфармаваць пра жыццё суседзяў. Сведчаннем таму — актыўны ўдзел у форуме прадстаўнікоў беларускай дыяспары з Польшчы, Літвы, Латвіі і Украіны.

Увагай наведвальнікаў з самых першых хвілін работы выстаўкі карысталіся стэнды Кітая, Індыі, Кубы, Венесуэлы, Азербайджана, выданняў Маскоўскай, Бранскай, Валагодскай, Калінінградскай, Ніжагародскай, Ульянаўскай абласцей Расійскай Федэрацыі, Чарнігаўскай вобласці Украіны.

**(Працяг на стар. 2).**

# Пра што раскажуць абразы

*Лана ІВАНОВА, фота Валерыя Харчанкі*

Выстаўка "Адкрыццё святой прыгажосці" працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ўжо другі месяц. Толькі дзесяць экспанатаў — а якую дзівосную атмасферу ствараюць яны ва ўтульнай музейнай зале: урачыстую, напоўненую светлай жыццядайнай энергіяй! Гэта — творы тэмпернага і алейнага жывапісу XVII — XIX стагоддзяў, помнікі беларускага іканапісу, адноўленыя рэстаўратарамі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. У ліку адроджаных святыняў ёсць і абразы апосталаў з іканастаса Успенскага сабора Жыровіцкага манастыра. Яны трапілі ў музей на рэстаўрацыю ў 2009 годзе па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Уладыка пабываў на выстаўцы падчас светлага Велікоднага тыдня і ўручыў узнагароды групе супрацоўнікаў музея — рэстаўратараў і мастацтвазнаўцаў, якія спрычыніліся да нялёгкай і адказнай справы аднаўлення найкаштоўных помнікаў нашай нацыянальнай культуры.



Як нагадаў удзельнікам сустрэчы ў музеі яго дырэктар У. Пракапцоў, комплекс даследча-рэстаўрацыйных работ быў праведзены дзякуючы фінансаванню спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва. Да гэтай тонкай, ашчадлівай працы спрычыніліся А. Шпунт, К. Русакова, С. Шаціла, С. Ішмаева, Л. Сысоева, С. Дзікуць, Н. Усава ды іншыя кампетэнтныя супрацоўнікі музея, якім уладыка Філарэт уручыў узнагароды Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Звяртаючыся да прысутных, уладыка падкрэсліў, што сваім урачыстым маўчаннем абразы сведчаць нам пра нашу гісторыю і культуру, што гэтыя ўнікальныя помнікі — наш агульны набытак, таму яны маюць надканфесійнае значэнне. А тая тытанічная праца, якой вымагала іх уратаванне і аднаўленне, часам пераўзыходзіць па сваёй складанасці ды працаёмкасці само напісанне абразоў. Мітрапаліт Філарэт выказаў спадзяванне, што кожны наведвальнік выстаўкі (яна, дарэчы, працуе да 22 мая) захопіцца харством старажытных абразоў, якія нагадаюць, што ўсе мы з'яўляемся падабенствам Божым і мусім захоўваць сваю душу, сэрца толькі для добрых спраў.

Урачыстасць сабрала няшмала гасцей. Сярод іх — намеснік міністра культуры Беларусі Віктар Кураш, мэр Мінска Мікалай Ладуцька, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Сербіі ў нашай краіне Срэчка Джукіч, міністр сувязі і інфарматызацыі Мікалай Панцялей.

***На здымку:** падчас агляду выстаўкі.*

## Пункціры

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 60-годдзем народнага артыста Беларусі Аляксандра Яфрэмава, адзначыўшы, што створаныя кінематаграфістам фільмы сталі яркімі падзеямі ў сучасным мастацтве, а Тэатр-студыя кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" пад кіраўніцтвам Яфрэмаваператварыўся ў адзін з самых папулярных калектываў краіны.

У сувязі са смерцю народнага артыста Расіі Аляксандра Лазарава Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выразіў глыбокія спачуванні яго родным і блізкім.

Парк Перамогі ў гэтым годзе ўпершыню стане адной з галоўных святочных пляцовак у Мінску. 9 мая тут будуць выступаць прафесійныя і самадзейныя калектывы, духавыя аркестры; працаваць тэматычная фотавыстаўка, пляцоўка для дзяцей. У зялёнай зоне парка разгарнецца пленэр вучняў мастацкіх школ, а ўздоўж набярэжнай — пленэр прафесійных мастакоў на ваенную тэматыку.

Перасоўная выстаўка "Летапіс Брэсцкай крэпасці ў фотаздымках" прыехала ў Лондан. Экспазіцыя, якая ўключае ў сябе больш як 60 копій фотаздымкаў з фондаў музея абароны Брэсцкай крэпасці і прадстаўляе 170-гадовую гісторыю легендарнай цытадэлі ад закладкі першага каменя да нашых дзён, ужо пабывала раней у адзінаццаці гарадах Брытаніі. Пабачылі яе таксама жыхары вострава Джэрсі, дзе ў гады вайны працавалі савецкія ваеннапалонныя, у тым ліку і беларусы.

У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстаўка латвійскага фатографа Аляксандра Булыгіна "Памяць душы", прысвечаная ветэранам Вялікай Айчыннай вайны. Яна аб'ядноўвае больш як 30 фотаработ, зробленых у Дзень Перамогі каля помніка Вызваліцелям Рыгі. Праект заклікаeconа прадэманстраваць гледачам рэальнае стаўленне жыхароў Латвіі да падзей Вялікай Айчыннай вайны, іх павагу да загінуўшых салдат.

Харавы калектыў Першага дабрачыннага белградскага пеўчага таварыства даў дабрачынны канцэрт на ступенях Храма-помніка ў гонар Усіх Святых у памяць пра ахвяр выбуху ў Мінскім метрапалітэне, выразіўшы гэтым салідарнасць сербскага народа з беларускім.

VII Міжнародны тэатральны фестываль асобых тэатраў "Непратаптаны шлях" прайшоў у Брэсце. У фестывалі прынялі ўдзел моладзевыя і дзіцячыя калектывы, якія складаюцца з самадзейных акцёраў, што маюць функцыянальныя абмежаванні. Брэсцкі фестываль "Непратаптаны шлях" арганізаваны па ініцыятыве брэсцкага абласнога моладзевага грамадскага аб'яднання "Інвалід і асяроддзе".

Белтэлерадыёкампанія абвясціла пра дадатковы прыём заявак для ўдзелу ў адборачным туры Міжнароднага дзіцячага конкурсу песні "Еўрабачанне-2011". Пакуль з прапанаваных 49 кампазіцый прафесійным журы адабрана пяць. Апошні дзень прыёму заявак – 15 чэрвеня 2011 года.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Міхаіл Пазнякоў: «Беларусам ёсць што прапанаваць сусветнаму чытачу»

**Міхаіл Пазнякоў як кіраўнік самай шматлюднай з рэгіянальных арганізацый Саюза пісьменнікаў Беларусі — Мінскай гарадской — сапраўды лічыць, што без высокай літаратуры, без пастаянных клопатаў пра творчы працэс, мастацтва, культуру чалавецтва не зможа ў поўнай меры супрацьстаяць грубым, бесчалавечным выклікам сіл разбурэння. Ці не таму так шмат увагі ўдзяляюць сталічныя літаратары прапагандзе новых кніг? Міхаіл Паўлавіч — наш сённяшні суразмоўца.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**— Пісьменнікі па сутнасці сваёй бываюць альбо пустэльнікамі, альбо публічнымі асобамі. Вы — ярка выражаная публічная асоба: шмат выступаеце, шмат сустракаецеся з чытачамі. Гэта патрабаванне сэрца ці цвярозы разлік?**

— Сапраўды, мне даводзіцца даволі часта выступаць перад чытачамі ў самых розных аўдыторыях: ад дзіцячага садка да вельмі салідных устаноў і арганізацый. Па-першае, пасада абавязвае. Мы ладзім літаратурныя святы, творчыя сустрэчы, ранішнікі, юбілейныя вечары, прэзентацыі кніг, творчыя конкурсы. Адгукаемся на запрашэнні музеяў, бібліятэк, школ, ВНУ і іншых навучальных устаноў. І, вядома, старшыні самага вялікага падраздзялення СПБ патрэбна паспяваць усюды. Па-другое, я творча працую ў самых розных жанрах, пішу для дарослых і дзяцей, займаюся перакладамі і навуковай дзейнасцю. Таму нярэдка мяне запрашаюць асабіста — як аўтара, які разумее чытачоў і ўмее размаўляць з імі. І тут ужо да абавязку далучаецца патрабаванне сэрца. За 30 гадоў літаратурнай працы правёў з чытачамі каля дзвюх з паловай тысяч сустрэч. І, напэўна, атрымаў для душы, для роздуму не менш, чым аддаў.

**— Нашы пісьменнікі звычайна самі прапагандуюць сваю творчасць. Ці не сумуеце вы па адсутнасці ў нас інстытута менеджменту, які за мяжой бярэ на сябе галоўны клопат па "раскрутцы" аўтара і яго кніг?**

— Безумоўна, сёння не ўмеюць і не вучацца прапагандаваць творчасць пісьменнікаў (перад імі такая задача і не ставіцца) ні настаўнікі, ні бібліятэкары, ні музейныя работнікі. Штосьці ў гэтым накірунку робім мы ў сталічным аддзяленні, хаця і зусім не дастаткова, бо дзеля гэтага патрэбна было б мець штат хаця б утрая большы. Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СПБ усё яшчэ не запрацавала як мае быць. Тое-сёе ў гэтым плане робяць некаторыя выдавецтвы, асабліва РВУ "Літаратура і Мастацтва" і "Мастацкая літаратура". Але, згодны, добра было б мець магутны цэнтр менеджменту, дзе ёсць у аўтараў і літаратурныя агенты, і шырокія магчымасці "раскручвацца". Неабходны спецыялісты, вялікія грошы, мецэнаты, умовы і законы для гэтага. І, відаць, без дзяржаўных захадаў тут не абысціся. Асабліва ў "раскрутцы" беларускіх аўтараў і іх кніг. Бо пачынаць гэтую справу патрэбна з выхавання беларускага чытача, з пашырэння ўжытку беларускай мовы, з фарміравання прэстыжнасці гаварыць, пісаць і чытаць па-беларуску.

**— Як сёння беларускаму пісьменніку рэальна можна атрымаць вядомасць за мяжой?**

— Беларускі пісьменнік спачатку павінен сцвердзіцца, стаць вядомым на радзіме, у Беларусі. А каб адразу, рэальна атрымаць вядомасць за межамі, то неабходна напісаць нешта неверагодна новае і звышталенавітае ці неверагодна бруднае, за што ўхапіліся б дзялкі ад кнігавыдання ці палітыканства. Але сапраўдны пісьменнік — сын сваёй радзімы. Ён талентам і сумленнем гандляваць не будзе. У нас амаль знікла школа перакладчыкаў. У перакладзе на рускую мову і то няпроста надрукавацца. Калісьці ў СССР была моцная арганізацыя "Міжнародная кніга", якая пастаўляла літаратуру за мяжу ў перакладах на сусветныя мовы. Выдавецтва "Юнацтва", напрыклад, пастаўляла свае кнігі праз гэтую структуру ў 110 краін. У Беларусі падобнай установы, вядома, няма. Цяжка разлічваць у наш час на ўзнікненне такіх службаў, калі скарачаюцца мастацкія выданні, выдавецтвы, бібліятэкі і г.д. Жыццё працягвае спрашчацца па самых розных накірунках, што ўплываюць на свядомасць, мараль, духоўнасць. І гэта вельмі непакоіць. Свет матэрыялізуецца, становіцца больш прагматычным. Усё гэта не можа не адбівацца і на жыцці нашай краіны, на літаратурнай справе ў прыватнасці. А ў нашай сучаснай літаратуры якраз ёсць што прапанаваць сусветнаму чытачу: і ў прозе, і ў паэзіі, і ў драматургіі, і ў дзіцячай літаратуры, і ў дарослай.

# Навіны літжыцця: Мінск

*__10 мая__ ў паэтычным тэатры "Зніч" адбудзецца сустрэча членаў літаратурнага аб'яднання "Купалінка" з пісьменнікам, старшынёю Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхаілам Пазняковым.*

*23 мая ў Доме літаратара адбудзецца літаратурнае свята, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай дзіцячай літаратуры Васіля Віткі.*

*__24 мая__ ў сталічнай бібліятэцы № 5 пройдзе літаратурная імпрэза "Славутая палачанка", прысвечаная 910-годдзю з дня нараджэння беларускай святой і асветніцы Еўфрасінні Полацкай.*

*__У маі-чэрвені__ ў бібліятэках і музеях сталіцы адбудуцца юбілейныя творчыя вечары Міхася Башлакова, Паўла Саковіча, Валерыя Маскаленкі, Мікалая Шашкова, Уладзіміра Федасеенкі, Мікалая Васькова, Веры Зелянко, Таісы Супрановіч.*

*__Прайшоў__ літаратурны конкурс на лепшы паэтычны і празаічны твор сярод юных літаратараў, якія пішуць на рускай мове. Пераможцы Анастасія Пастэрнак (паэзія) і Алена Саўко (проза) прымуць удзел у фінальным туры рэспубліканскага літаратурнага конкурсу "Мы рождены для вдохновенья", які адбудзецца ў Брэсце 20 — 21 мая.*

*Працягваецца літаратурны конкурс на лепшы твор сярод моладзі, прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Лепшыя творы будуць выдадзены асобнымі кнігамі.*

*__Пабачыў свет__ першы нумар альманаха "Армія і культура" за 2011 год, прысвечаны Вялікай Перамозе і падрыхтаваны Мінскім гарадскім аддзяленнем і Студыяй ваенных пісьменнікаў. Сярод аўтараў — Алесь Савіцкі, Мікалай Чаргінец, Генадзь Пашкоў, Анатоль Сульянаў, Міхась Пазнякоў, Яўген Каршукоў, Навум Гальпяровіч, Сяргей Давідовіч.*

*У новай серыі "Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі" выходзіць першая кніга — зборнік апавесцей і апавяданняў Ніны Маеўскай "Шчасце".*

*__20 — 21 мая__ група паэтаў сталічнага аддзялення (Валянціна Паліканіна, Андрэй Скарынкін, Юрый Сапажкоў, Анатоль Аўруцін) прыме ўдзел у IV Міжнародным фестывалі рускай паэзіі "Созвучье слов живых", які адбудзецца ў Брэсце.*

# З адказнасцю за слова, кадр, сюжэт

(Працяг. Пачатак на стар. 1).

Друкаваныя і электронныя СМІ, выдавецтвы і друкарні, інфармацыйныя агенцтвы і інтэрнэт-правайдары, а таксама апаратары кабельнага, спадарожнікавага і мабільнага тэлебачання, рэгіянальныя СМІ, многія з якіх прадстаўлены ў Інтэрнэце, падрыхтавалі разнастайную праграму: прэм'ерай песень у выкананні беларускіх зорак І. Афанасьевай і А. Хлястова і папулярнымі малюнкамі з пяску В. Сафронавай парадавала пляцоўка Міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мір". На фоне тэхнікі часоў Вялікай Айчыннай можна было сфатаграфавацца ля стэнда "Ваенныя СМІ". Рэкламу газеты "На страже", васьмідзесяцігоддзе якой хутка будзе святкавацца, раздавалі маладыя людзі, апранутыя ў міліцэйскую форму розных гадоў мінулага стагоддзя. Гульні, конкурсы і віктарыны праводзіў "Рукз-клуб" выдавецтва "Пачатковая школа". Ладзіліся "круглыя сталы" і прэзентацыі новых выданняў.

Праца журналістаў адзначана шматлікімі ўзнагародамі: лепшыя з лепшых атрымалі "Залатое пяро", названы пераможцы Рэспубліканскага конкурсу па асвятленні супрацоўніцтва Беларусі і суайчыннікаў за мяжой. Як паведаміў міністр інфармацыі Алег Пралляскоўскі, "пятага мая адбудзецца ўручэнне "Залатой ліцеры", праз тыдзень пераможцаў аб'явіць "Тэлевяршыня". У пачатку наступнага месяца пройдзе форум журналістаў краін СНД. Наша мэта — стварыць як мага больш пляцовак для прафесійных кантактаў, мы рады людзям, якія аб'ектыўна пішуць пра нашу краіну".



Адзначыў Алег Вітольдавіч і належную базу для падрыхтоўкі кадраў: "У нас выдатны Інстытут журналістыкі. Калі ў мінулым годзе праводзілі на яго базе школу маладых журналістаў СНД, расійскія мэтры журналістыкі, тэлевізійныя акадэмікі прасілі гэтую пляцоўку зрабіць пастаяннай. Хутка ў нас пройдзе медыяфорум краін СНД.

Мы дакладна ведаем, як будзем развівацца надалей — і друкаваныя сродкі масавай інфармацыі, і электронныя. У 2015 годзе электронныя СМІ стануць лічбавымі, нас чакае іншае разуменне тэлебачання — гэта будзе не тэлебачанне каналаў, а тэлебачанне кантэнту. Інтэрнэт складае канкурэнцыю астатнім СМІ. Але вядучыя беларускія газеты ідуць тым жа шляхам, якім ідуць буйныя таблоіды ўсяго свету: частку інфармацыі яны размяшчаюць у Інтэрнэце. Наш народ чытаючы, "інтэрнэтны" — да 30 працэнтаў насельніцтва Беларусі актыўна карыстаецца сусветнай павуцінай, тым не менш тыражы падпісак і развовыя тыражы выпускаў газет з года ў год трымаюцца, нягледзячы нават на крызісныя працэсы".

***На здымках:** чырвоную стужку разразаюць намеснік кіраўніка Дэпартамента сродкаў масавай інфармацыі і рэкламы Урада Масквы Юлія Казакова, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі і першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў; стэнд РВУ "Літаратура і Мастацтва".*

Літабсягі

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Малая радзіма ва ўспамінах і фотаздымках

**“Што ні край, то звычай” — так называўся праект, распачаты ў 2008 годзе газетай “СБ. Беларусь сегодня”. Незвычайнае падарожжа па Беларусі можна было здзейсніць з беларускімі літаратарамі, якія падзяліліся ўспамінамі дзяцінства пра сваю малую радзіму. Сёлета гэтыя артыкулы сталі кнігай “За мостам майго дзяцінства”, укладальнікам якой з’явілася Людміла Рублеўская, а прадмову напісаў галоўны рэдактар “СБ” Павел Якубовіч. Кніга, выдадзеная ў РВУ “Літаратура і Мастацтва”, прэзентавалася ў мінскім “Кніжным салоне”.**




У краіне дзяцінства самае яркае сонейка, самыя цудоўныя фарбы. Толькі тут ёсць “палясцінка” — адкрытая разам з татам некранутая паляна журавін, цяпло матчынай далоні і чароўныя бабуліны казкі. У гэтай краіне — вытокі нашых талентаў і ўчынкаў, рыс характару, адчування дабрыні і зла. На прэзентацыі падпісалі адно аднаму кнігі, дзяліліся цёплымі шчырымі ўспамінамі дзяцінства аўтары Алесь Бадак, Анатоль Бутэвіч, Раіса Баравікова, Алена Масла, Алёна Беланожка і Мікола Кандратаў, артыкул якога даў назву ўсёй кнізе. Некалькі ўласных песень выканаў Юрась Нераток.

Як паведаміла Людміла Рублеўская, праект працягнецца. На сайт газеты “СБ” прыйшло шмат водгукаў ад землякоў аўтараў. У кожным — просьба не спыняцца і падзяка за артыкулы, якія ўскалыхнулі душу.

— На жаль, некаторыя вобласці рэспублікі прадстаўлены не так поўна, як хацелася б, — адзначыла Людміла Іванаўна. — А некаторыя вёсачкі, хутары — радзіма тых, хто сёння стварае беларускую літаратуру, — ужо зніклі з карты. Таму ўдзел у праекце — не толькі наша даніна памяці, але і абавязак перад малой радзімай. Запрашаю далучыцца да праекта літаратараў, якія яшчэ не паспелі падарыць чытачам незвычайнае падарожжа па нечаканай Беларусі — праз прызму ўспамінаў дзяцінства і фотаздымкаў з сямейнага альбома.

Артлінія

# Спасціжэнне свету Лапчынскага

Валерый МІШЧАНКА,
фота Віктара Кавалёва

**Нядаўна споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння Леаніда Лапчынскага (1936 – 1994), аднаго з прадстаўнікоў нешматлікага беларускага андэграўнда. Вучань Віталя Цвіркі ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, ён каля трыццаці гадоў выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава малюнак, жывапіс, кампазіцыю.**



Леанід Васільевіч, як сведчаць усе, хто яго блізка ведаў, ніколі не марнаваў сілы і час на розныя дробязі і доказы сваёй “значнасці”, а пісаў і рабіў тое, што наканавана лёсам — карціны, з сардэчнай цеплынёй павагі і спагады, з адчуваннем высокага сэнсу будзённай падзеі. Нават у рэпрадукцыях, змешчаных у альбоме-манаграфіі “Леанід Лапчынскі”, што пабачыў свет у 2003 годзе ў выдавецтве “Міжнародны цэнтр культуры кніг”, яны ўладна вабяць да сябе, ускалыхваюць глыбокія пачуцці, чаруюць таямнічым бурштынавым свячэннем фарбаў, бы жар вуголля пад прысакам вякоў.

Дарэмна шукаць у гэтых палотнах знешняй эфектнасці, вонкавай пафаснасці — яны вабяць ціхмянай справядлівасцю і адухоўленасцю. На карцінах мастака паўстаюць старыя сцены некалі велічных будынкаў, што ўвабралі ў сябе працу і талент продкаў, галасы і падзеі мінулага, а цяпер патанаюць у прыцемках “вечнасці”. Напэўна, гэта звязана і з перажываннем бязрадаснасці ўласнага існавання, і з метафізічнай невырашальнасцю “загадкі жыцця”. Матэрыяльны свет для творцы адчуваўся цьмяным масай без канца і краю, субстанцыяй, якая раней толькі прысутнічала, а цяпер запаланіла прастору жыцця і жывапісу карціны.

Але светабачанне, манеру, стыль яго твораў нельга ўспрымаць як застыглую схему, з якой мастак падыходзіць да ўсяго, што адлюстроўвае. У яго няма ніводнай карціны, падобнай да іншай.

Мастак ніколі не выступаў супраць існуючай у тыя гады сістэмы, ён быў па-за ёй, імкнуўся да асэнсавання агульначалавечай культуры, да спасціжэння свету. Гэтаму ён вучыў і юнакоў — знайсці сваё месца паміж Космасам і палатном.

Леанід Лапчынскі ведаў, што толькі творчая і чалавечая шчырасць, разам з талентам, забяспечаць паўнакроўнасць твораў, высокае служэнне прафесіі жывапісца, сваёй Бацькаўшчыне.

***На здымку: Уладзімір Ісачанка “Партрэт мастака Лапчынскага”.***

Повязі

# Вянок памяці — аўтару Цёркіна

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**Невыпадкова напярэдадні свята Перамогі ў Мінскім Доме дружбы адбыўся вечар памяці праслаўленага рускага паэта Аляксандра Твардоўскага. Па-першае, Твардоўскі быў франтавіком, па-другое, менавіта ў гэтым годзе спаўняецца 40 гадоў з дня яго смерці.**



Хаця вечарыну, арганізаваную намаганнямі кіраўніцтва Мінскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі, і прыняў Дом дружбы, дзе ладзяцца міжнародныя мерапрыемствы, ніхто з прысутных, шчыра кажучы, не ставіўся да Твардоўскага як да пісьменніка замежнага. І справа тут нават не ў тым, што дзед Аляксандра Трыфанавіча паходзіў з Беларусі, і не ў тым, што нарадзіўся і жыў паэт на старажытнай крывіцкай зямлі — Смаленшчыне. А ў тым, што творы яго — такія агульнаславянскія, такія родныя, такія зразумелыя кожнаму з нас, што проста неяк няёмка аднесці іх да замежнай літаратуры.

Вядучым вечарыны быў старшыня Мінскай гарадской пісьменніцкай арганізацыі Міхась Пазнякоў. І адкрыў ён яе паэтычнымі радкамі Твардоўскага: “Ведь если бы смерть выбирать нам, друзья, / То лучше, чем смерть за родимую землю, / И выбрать нельзя”.

Паэт не загінуў на вайне. Вершы яго атрымалі прызнанне. Сямнаццаць гадоў Твардоўскі ўзначальваў вядучы літаратурна-мастацкі часопіс СССР “Новый мир”. І яго рэдактарская пазіцыя была непахіснай — у часопісе публікавалася толькі сапраўдная літаратура, нягледзячы на тое, “у фаворы” аўтар ці то “ў апале”. Дарэчы, ён быў першым, хто заўважыў і пачаў падтрымліваць Васіля Быкава. Пра гэта прыгадаў у сваім слове дацэнт БДУ, пісьменнік Уладзімір Навумовіч.

“Мне не даводзілася сустракацца на вайне з Твардоўскім, але мне даводзілася сустракацца з Цёркіным”, — распачаў сваё выступленне паэт-франтавік Мікалай Іваноў. Ён успамінаў, як чакалі салдаты ў акопах новай часткі гісторыі Цёркіна. І як потым у кожным узводзе параўноўвалі сваіх гаваруноў менавіта з героем Твардоўскага. Выступаў і другі паэт-франтавік, Аляксандр Суслаў, генерал-маёр авіяцыі ў запасе Анатоль Сульянаў.

Ваенныя вершы Твардоўскага чыталі апранутыя ў салдацкія гімнасцёркі студэнткі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Гучалі і песні на словы праслаўленага аўтара. Выконваў іх бас Уладзімір Курак. Публіка шчыра апладзіравала на працягу ўсёй вечарыны. А самымі ўдзячнымі гледачамі сталіся суворацы, якія прыйшлі ў Дом дружбы са сваімі настаўнікамі.

***На здымку: паэт Мікалай Іваноў чытае свае вершы пра вайну.***

Актуальна

# Сацыяльная адказнасць мас-медыя

**У Гродне прайшоў семінар кіраўнікоў рэспубліканскіх СМІ, які, па словах міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алега Праляскоўскага, адкрыў шэраг значных падзей у сферы мас-медыя Беларусі.**

Правядзенне семінара загадзя спланавана. Следам пройдуць: падвядзенне вынікаў конкурсаў на лепшыя выданні, выстаўка “СМІ ў Беларусі” (з 4 па 7 мая), медыяфорум краін СНД. Адкрываючы семінар, міністр заўважыў, што не ўсе СМІ належным чынам выкарыстоўваюць свае магчымасці ўплываць на чытача на карысць грамадства. Здараецца, — і гэта паказала асвятленне падзей 11 красавіка ў мінскім метро, — што некаторыя выданні адкрыта піярыліся, перакручвалі факты, стараючыся пасеяць у грамадстве страх, паніку. Алег Праляскоўскі нагадаў словы Прэзідэнта краіны: нашу маладую суверэнную дзяржаву, якая праводзіць самастойную ўнутраную і знешнюю палітыку, хочуць прымусіць скакаць пад чужую дудку, Беларусь падвяргаецца масіраванаму націску. Некаму вельмі хочацца дэстабілізаваць абстаноўку ў краіне, пасеяць хаос, недавер людзей да ўлады, каб потым узнікаючымі праблемамі, як пятлёй, задушыць краіну. І міністр інфармацыі, і намеснік прэм’ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік, і першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Аляксандр Радзькоў, якія выступалі на семінары з грунтоўнымі дакладамі, а таксама іншыя выступоўцы адзначылі высокі ўзровень адказнасці мас-медыя перад чытачом. “Мы цікавыя як краіна, да нас пачалі ставіцца як да краіны, з інтарэсамі — эканамічнымі, палітычнымі. Прэса павінна паказваць, што інтарэс да нас бывае дружалюбны, свет павінен зразумець, што мы — у новай якасці”, — зазначыў Аляксандр Радзькоў. Была звернута асаблівая ўвага на тое, што рэфармавання, тэхналагічных змен патрабуюць літаральна ўсе мас-медыйныя праекты. І гэта датычыцца не толькі знешняга выгляду выданняў. І электронныя, і друкаваныя СМІ, у тым ліку — літаратурна-мастацкія часопісы, патрабуюць новага насычэння, большай увагі да аналітычных матэрыялаў. На семінары часта гучала думка пра суаднесіны напісанага, надрукаванага з тым, што адбываецца ў рэальным жыцці, акцэнтавалася ўвага на здольнасці журналістаў растлумачыць тыя ці іншыя працэсы ў грамадскім, сацыяльным жыцці. Гаворачы пра лічбавае тэлебачанне, Аляксандр Радзькоў заўважыў: “Тэта каналы незлічонай колькасці. Як іх выкарыстаць, як у гэтай канкурэнцыі знайсці сабе прытулак і данесці тое, што вы хочаце, — і дзяржаўную палітыку, і сваё бачанне, — гэтыя пытанні цяпер павінны хваляваць”.

Канечне ж, вырашэнне многіх задач, якія стаяць перад СМІ, патрабуе большай энергіі, умення выбудаваць найбольш актуальныя тэмы, паказаць уласную здольнасць аналізаваць працэсы, што адбываюцца ў краіне і свеце. Людзям патрэбны, і пра гэта гаварыў міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі, сумленная і адкрытая размова, добрае разуменне перспектыў развіцця краіны, шчырае абмеркаванне існуючых праблем.

Сяргей ШЫЧКО



**Перамога на ўсіх адна. Але водавочнае верагоднае не для ўсіх. Мае суразмоўцы ў XXI стагоддзі — дырэктар Гомельскага абласнога музея ваеннай славы Павел Ждановіч і намеснік дырэктара па навуковай працы Канстанцін Мішчанка — у гутарцы, якую мы вялі ў залах з экспазіцыямі, заўважылі: "Недасказанасць ваеннай гісторыі мае месца..."**

# Агонь вайны ў бронзавым абкладзе

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**
**і з фондаў музея**

## Хто ж перамог?

Канстанцін Мішчанка працягвае: "У ЗША ў школьным падручніку на гісторыю Вялікай Айчыннай вайны адведзена 48 радкоў. І традыцыйна лічаць, што вайну выйгралі яны разам з англічанамі — перамаглі немцаў і рускіх. За мяжой яшчэ нямала фальсіфікацый".

Акрамя падрыхтоўкі навуковых публікацый тут паказваюць нашу культуру і гісторыю праўдзіва. Гэта ўдаецца: Гомельскі абласны музей ваеннай славы за значныя дасягненні ў музейнай справе, вялікую працу па патрыятычным выхаванні ўганараваны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года. Зразумела, у музеі не толькі расказваюць пра Вялікую Айчынную вайну — храналогія падзей пададзена ад старажытнасці да нашых дзён. Тут восем залаў, але чатыры з іх прысвечаны менавіта гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Парадокс сучаснай свядомасці: яна як быццам не можа паяднаць у сабе два процілеглыя працэсы — памяць і цікавасць да зброі, якая заўсёды нясе ў сабе пагрозу жыццю, і адмаўленне ад яе (як частку палітыкі міралюбнай дзяржавы). Нідзе, акрамя як у музеі, не пераканаешся: цікавасць да гістарычнай зброі — асаблівая. За асобным прадметам, які быў ва ўжытку і якім карыстаўся той, хто пакінуў свой (прыкметны) след на гэтай зямлі, за кавалкам металу, з якога яна выраблена, паўстаюць рэальныя карціны жыцця. Яны сведчаць, як людзі выжывалі, як вынаходзілі простыя рашэнні найскладаных задач, набліжалі той самы жаданы Дзень Перамогі. Зірніце, прыкладам, на экспанат — адрэзак чыгункі, які партызаны ўманціроўвалі на шляхах паравозаў. Рэйкі рабіліся адмыслова: з метр даўжынёй, адна паласа звычайная, а паралельная ёй — з надрывам, які вядзе кола ўбок, а паравоз — пад адхон. Вось вам інжынерная думка, вось — наша кемлівасць, спрыт, наша чалавечая годнасць.

Мой гід па музеі дырэктар Павел Леанідавіч, звяртаючы ўвагу на наступнае фота на сцяне, заўважае: пра палкоўніка авіяцыі Васіля Сярогіна ў іх захоўваецца спачуванне з нагоды яго смерці, падпісанае мэрам Парыжа. Сярогін быў камандзірам трэцяй эскадрыллі авіяпалка "Нармандыя-Нёман". Быў ганаровым грамадзянінам Парыжа. І гэта зафіксавана назаўсёды...

Рысачкі-нітачкі, якія разблытваюць клубок тлумачэнняў: як мы перамагалі. Колькі іх? Спрабую высветліць у дырэктара музея, які з экспанатаў ён лічыць унікальным. У музейнага работніка такіх не можа быць. Насамрэч гэта як у адносінах да людзей: скажы камплімент аднаму — пакрыўдзіш астатніх. Напэўна, усё ж галоўнае, каб кожны прадмет быў на сваім месцы. І адыгрываў менавіта тую ролю, на якую спадзяюцца гаспадары. Можа, таму музейныя работнікі так доўга складалі экспазіцыі — цягам некалькіх месяцаў. Тут выкарыстаны новае абсталяванне і новыя тэхналогіі, устанаўліваліся сучасныя вітрыны з адмысловай падсветкай. Каб, насамрэч, кожны прадмет выконваў сваё сэнсавае прызначэнне. А Павел Леанідавіч, працягваючы тэму ўнікальнага, звяртае ўвагу на медаль імя Фларэнс Найцінгейл — побач з асабістымі рэчамі медсясцёр-гамяльчанак, якія выратавалі ў гады вайны вялікую колькасць параненых. Жанчыны на вайне... Якія ж тэмы яшчэ прадстаўлены ў музеі?

## Сапраўдная гісторыя

"Стараемся ўводзіць як мага больш сапраўдных прадметаў. Больш аб'ёмных, але каб не абцяжарыць экспазіцыю. Музей мае амаль увесь камплект вышэйшых узнагарод Рэспублікі Беларусь. Маем і 40 адзінак ваеннай тэхнікі — гэта амаль што самая вялікая музейная калекцыя", — працягвае Павел Леанідавіч.



За мінулы год адбылося 940 экскурсій. Не толькі на платнай аснове — шмат працуюць музейныя работнікі з цяжкімі падлеткамі, інвалідамі.

Без энтузіязму, вядома, не абысціся. Тут і інтарэс павінен быць.

Музей створаны ў 2004 годзе. Першая чарга яго была адкрыта ў ліпені таго ж года, яна ўключала ў сябе адкрытую пляцоўку — там знаходзілася крыху больш як 12 адзінак ваеннай тэхнікі. Другая чарга адкрылася ў 2005 годзе і ўключала ваенна-гістарычную стацыянарную экспазіцыю. Зразумела, акцэнт робіцца на Гомельскую вобласць, але і экспанаты, і сама гісторыя выходзяць далёка за геаграфічныя межы. Арганізатары тлумачаць: "Мы спрабавалі ўбачыць вайну вачамі простага салдата. Паказвалі яе на прыкладзе гарадоў і мястэчак Лоева, Чырвонага Берага, іншых пунктаў".

Трэці этап развіцця музея распачаўся ў сакавіку 2010 года, калі адкрылі новую музейную экспазіцыю ў асобным памяшканні — яна прысвечана барацьбе са злачыннасцю на тэрыторыі Гомельшчыны ў 1917 — 2000 гады. Адмысловы музей крыміналістыкі. Да слова: у стварэнні музея ваеннай славы памагатымі былі ўсе арганізацыі, яго актыўна падтрымалі аблвыканкамы. У камплектацыі фондаў дапамагалі Міністэрства абароны, МУС, КДБ, Гомельская мытня, прыватныя асобы.

Тое, чаго нестае, шукаюць у партнёрстве з іншымі ўстановамі: прыкладам можа лічыцца праведзеная летась сумесная з Кобрынскім ваенна-гістарычным музеем імя Суворава выстаўка, дзе было прадстаўлена больш як 30 адзінак захоўвання з гісторыі вайны 1812 года. За кошт выставачнай залы імкнуцца ліквідаваць прагалы, якія яшчэ ёсць у паказе гісторыі.

## «Я не стаў бы з ёю ваяваць...»

Памятаеце, што сказаў адзін палонны, калі яго везлі ў Санкт-Пецярбург: "Калі б я ведаў, што Расія такая вялікая, я б ніколі не стаў з ёю ваяваць!" Праехаць з рухомымі экспазіцыямі нават па Беларусі — спатрэбіцца не адзін год. Музейныя работнікі пабывалі ўжо ў многіх раёнах краю. Перасоўная экспазіцыя "Салдаты Перамогі", прыкладам, з'ядная 65-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і 65-годдзе вызвалення Беларусі. Экспанавалася з 3 ліпеня па 9 мая — гэта былі фота, іншыя прадметы. Экспазіцыі змаглі ўбачыць амаль усе жыхары Гомельскай вобласці.

Вакол такіх музеяў звычайна канцэнтруюцца эліта, людзі, якія вывучаюць гісторыю краю. "І калі мы праз сродкі масавай інфармацыі звярталіся да насельніцтва, быў водгук, — успамінае Павел Леанідавіч. — Дагэтуль прыносяць нешта. Без прыватных знаходак не было б і музея". Толькі за 2010 год фонды павялічыліся на 583 прадметы. Далучаюцца да працы калекцыянеры, музеі, якія маюць адпаведную тэматыку.

## У спалучэнні класікі і інавацый

Музей ваеннай славы ў Гомелі намагаюцца будаваць па класічных канонах. Хаця сучасныя тэндэнцыі, вядома ж, пранікаюць у жыццё. Але не разбураюць і класічнае паняцце музея. Тры асноўныя напрамкі яго традыцыйныя: выстаўкі і экспазіцыі, навукова-фондавая і навукова-даследчая праца. Чацвёрты кірунак — культурна-адукацыйны.

— На ўсіх іх і трымаецца справа, — тлумачыць дырэктар. — Прычым, у навукова-даследчай працы ўзаемадзейнічаем з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі, а менавіта — з Інстытутам гісторыі.

Сябруюць з навуковымі ўстановамі Брэста, Мінска, Магілёва, Гродна. Далучаецца Масква — Інстытут ваеннай гісторыі Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі. Двойчы прыязджалі яны ў Беларусь: на канферэнцыі "Старонкі ваеннай гісторыі Гомельшчыны" і "Курская бітва". Між іншым, з дня заснавання музея праведзены чатыры канферэнцыі, дзве з іх — міжнародныя. Выдалі два зборнікі дакументаў. Адзін прысвечаны партызанскаму руху — "Гомельшчына партызанская", а другі — "Гомельская вобласць у першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны". Што да міжнародных выставачных праектаў, то і такія ёсць: "Гомель. Беларускі горад у вайне". Такая экспазіцыя прайшла ў Шатландыі. Ды цяжкі толькі пачатак...

***На здымках: дырэктар Гомельскага абласнога музея ваеннай славы Павел Ждановіч; адкрытая пляцоўка з ваеннай тэхнікай.***

## Рэфлексія

# Мёртвыя сораму не маюць...

**Людміла САЯНКОВА**



Ён дажываў свае апошнія дні сціпла і ціха. Слова "сціпла" нават занадта моцнае для той сітуацыі, у якой ён апынуўся ў апошнія гады. Кожная жыццёвая патрэба давалася яму з вялікімі цяжкасцямі. Адзінота, туга, глухата, ніякай магчымасці і жадання жыць. Ён і памёр, здаецца, ад таго, што патрэба ў жыцці перастала існаваць. Ён, яшчэ зусім не сталы чалавек, адна з самых яскравых асоб у нашым кіно, адыходзіў у нябыт у інтэрнаце пры царкве.

Яго фільмы — ігравыя, дакументальныя — не маглі быць не заўважанымі. Амаль у кожным кадры адчувалася высокая культура аўтара, сапраўдны арыстакратызм духу. Гэта было заўважна амаль з першай карціны, нават у назве яе адбілася чалавечая сутнасць стваральніка — "Жывая душа". Потым былі "Запіскі маладога ўрача" паводле М. Булгакава, цудоўныя дакументальныя фільмы пра Я. Купалу, Я. Баршчэўскага, Э. Ажэшку, Г. Каніскага. А яшчэ былі філасофскія вершы, цікавая графіка. Але пра гэты бок таленту дазналіся ўжо пасля смерці Міхаіла Якжэна. Ён увогуле не падпадаў пад стэрэатыпны вобраз рэжысёра. Ніякай мітусні, самаўпэўненасці, ганарлівасці. Гаварыў ціха, нават неяк сароменючыся... Калі сярод стракатых магілкавых кветак шукалі ягоную магілу, хтосьці заўважыў: "Трэба шукаць самую сціплую магілу. У Мішы не будзе ні кветак, ні вянкоў". Так і адбылося. Толькі дзве засохлыя, збрудненыя гваздзікі як быццам ўклеіліся ў падмерзлую могілкавую зямлю.

Яго пахавалі вельмі сціпла... Многія калегі-кінематаграфісты не ўтойвалі свайго здзіўлення і роспачы, калі даведваліся, што Міхаіла Якжэна ўжо няма. Ён адышоў у нябыт быццам нікому не патрэбны. А можа, яшчэ і па гэтай прычыне людзі пакідаюць гэты свет, калі адчуваюць, што ўсе сувязі, якія зніто ўвалі іх з жыццём, абарваныя. Калісьці смерць чалавека была трагічнай падзеяй. Мы не заўважылі, калі гэтая самотная даденасць у жыцці перастала выклікаць у нас сапраўдныя чалавечыя пачуцці. Мы перасталі адчуваць боль ад страты. Мы нават не заўважаем гэтай страты.

За апошні год шмат знакамітых кінематаграфістаў пайшло з жыцця. Менавіта іх імёны зрабілі славу беларускаму кіно: Валерый Рубінчык, Ігар Дабралюбаў, Аляксандр Чакмянёў, мастакі Яўген Ігнацьеў, Уладзімір Дзяменцьеў. І ўсё. Як быццам іх і не было. На кінастудыі пра іх не ўспомнілі, у сродках масавай інфармацыі — амаль што ні слова. Шматлікія калегі, як гэта і адбываецца ў апошнія гады, не ведалі. А раней хавалі тых, з кім былі побач амаль усё жыццё, як кажуць, усім мірам. Дыстанцыя паміж людзьмі была меншая, а пачуццё адно аднаго — большым.

Мы сапраўды пераўтвараемся не толькі ў тых, хто не памятае мінулага, але ў тых, хто не адчувае сённяшняга, не думае пра будучае. Мы пражываем свае дні ў бясконцай мітуслівасці, не заўважаючы, як мінаюць дні, месяцы, гады. Кола часу круціцца ўсё хутчэй і хутчэй. А мы ў віры падзей, з'яў, інфармацыі, здаецца, не заўважаем чагосьці вельмі важнага. Што сумлення становіцца менш, што пачуцця сораму, як і памяці, нам нестае, што такая якасць, як маральнасць, ужо не з'яўляецца характэрыстыкай чалавечай годнасці. Шкада. За гэтым можам не заўважыць, што само жыццё патроху пераўтворыцца ў штосьці зусім адваротнае.

# Данесці праўду да людзей

**Пісьменніка Алеся Савіцкага нельга далучыць да кола аўтараў, якіх прынята называць прыхільнікамі адной тэмы. Але вайна, Вялікая Айчынная, у яго творчасці займае асаблівае месца. Бо Алесь Ануфрыевіч быў яе салдатам.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота Кастуся Дробава**

Бо прайшоў па пыльных, брудных, крывавых ваенных сцяжынках ад партызанскіх густых лясоў Віцебшчыны да самога Берліна. Бо, страціўшы многіх з баявых сяброў сваіх, шчыра ўпэўнены: ён застаўся жывым, каб было каму данесці да пакаленняў неваяваўшых, што сапраўдная радасць — гэта зусім не трохпавярховы катэдж і найноўшай мадыфікацыі іншамарка, а калі гарматы не страляюць. Што сапраўднае шчасце — гэта не перамагчы канкурэнта па бізнесе, а проста мірнае сонца над галавой і жывая, нерасстраляная сям'я. У выдавецтва "Літаратура і Мастацтва" рыхтуецца да друку адзін з самых лепшых, самых шчырых і мужных раманаў Алеся Савіцкага "Обаль", прысвечаны героям маладзёжнага антыфашысцкага падполля. Але пісьменнік, згаджаючыся на інтэрв'ю, папярэдзіў: пра раман яшчэ пагаворым, калі выйдзе.

**— Алесь Ануфрыевіч, быў час, калі ў мастацтве — дзякуй богу, не ў айчынным — Другую сусветную вайну спрабавалі паказаць як нейкае захапляльнае дзеянне, дзе салдат-супергерой крочыць да перамогі, высокіх узнагарод і трафеяў, лёгка і нават бойка прыбіраючы са свайго шляху ворагаў. Але мы ведаем: вайна — гэта страшна. А вось што было самым страшным на вайне?**

— Самае страшнае — гэта калі не хапае патронаў ці падводзіць затвор. У 1943 годзе пад вёскай Баравуха замініравалі мы з хлопцамі-партызанамі мост. Пад'ехала машына з немцамі. Выбух разнёс і мост, і дрэва, што расло побач. А машына ў варонку, што перад мостам з'явілася, упала і тарцом паўстала. Выбеглі немцы. Іхні кулямётчык залёг. Сустрэліся мы з ім вачыма — і абодва, нейкія ашаломленыя, марудзім. Я апамятаўся хутчэй, націскаю на спуск аўтамата — а ў патронніку — пэўна, ад выбуху — перакасіла патрон. Трэба было адцягнуць затвор назад, пальцам патрон гэты калупнуць і зноў націснуць на спуск. І тут я разумею, што ўсяго гэтага ўжо не паспею зрабіць. І нават скочыць куды-небудзь, схавацца не паспею… Праз некалькі імгненняў немец выпусціў доўгую чаргу са свайго кулямёта. Кулі прайшлі па валасах… Я памятаю, як яны паказыталі галаву… Каб рукі ў таго немца пасля выбуху не дрыжэлі, ён узяў бы крыху ніжэй. І гэта была б мая смерць…

**— Вы партызанілі, ваявалі і на фронце. Вам ёсць з чым параўноўваць. Ваенныя будні — для каго яны былі цяжэйшымі, для салдат ці партызан?**

— На фронце было лягчэй і менш страшна, чым у партызанскіх лясах. Байцы ведалі: вось яна — перадавая. Вось — лінія акопаў. Вось ён, перад табою, — твой вораг, а за спінаю — тыл, куды сябры выцягнуць цябе з поля бою, калі будзеш паранены. У партызанскім атрадзе мы адчувалі сябе з усіх бакоў акружанымі ворагам. І асабліва страшна было падчас блакады. Спадзяванняў на дапамогу не было. Адно толькі — на сваю ўдачу, што ты здолееш з боем прарвацца праз кола фашыстаў.



**— У савецкі час некаторыя пісьменнікі заклікалі калег пісаць толькі пра тое, што перажыў сам, каб іх творы былі дакладнымі і пераканаўчымі. Дык ці маем права мы, аўтары з пакаленняў, што нарадзіліся пасля Вялікай Айчыннай, пісаць сёння пра вайну? Можа, варта спыніцца і пачакаць? Пройдзе якое стагоддзе-два — напішуць нашчадкі гістарычныя раманы, як мы сёння пра сярэднявечча пішам.**

— Пісаць пра Вялікую Айчынную нашы нашчадкі не толькі маюць права, але і абавязак такі маюць. Я думаю, што чым больш мы адыходзім ад той вайны, тым больш адкрываюцца нам зусім іншыя яе старонкі, зусім іншыя ракурсы. Калі пісьменнік малады сапраўды адчувае прыцягненне гэтай тэмы, ён можа стварыць цудоўны і па ахопе, і па глыбіні твор. Не трэба яму для гэтага нашага ваеннага вопыту. Няхай суадносіць сваё чалавечае "я" з тым, пра што даведаецца з аповедаў сведкаў, з багатага архіўнага матэрыялу. Некаторыя нават і не ўсведамляюць, які багацейшы ваенны архіў захаваўся ў Беларусі. З 1942 па 1944 год аднавіць падзеі можна да самых дробных дэталяў. Па кожнай партызанскай брыгадзе, па кожным атрадзе. Данясенні, планы, лісты, загады… І ўсё гэта — з рэальнымі прозвішчамі. У апошнія дзесяцігоддзі было шмат спроб перагледзець нашу гісторыю. І колькі ж маны з'явілася ў выглядзе артыкулаў, кніг. Ужо дагаварыліся да таго, што вайну мы выйгралі, нібыта, толькі дзякуючы існаванню асабістаў, якія гналі людзей на смерць. А пра партызанскі рух чаго толькі не прачытаеш! Але ёсць дакументы, і яны — бясстрасныя сведкі тых падзей. Бяры, вывучай і пішы без хлусні.

**— І ўсё ж такі часы мінаюць, на некаторыя падзеі і асоб мы пачынаем глядзець іншымі вачыма, ацэньваць іх інакш. Вядома, што іншы раз пра гераізм людзі пачыналі гаварыць толькі таму, што побач у патрэбны час аказваўся ваенкар. Подзвігі ж іншых маглі стацца і забытымі, і недаацэненымі…**

— Сапраўды, з цягам часу да нас прыходзяць новыя веды. І адкрываюцца новыя імёны. І чаму б не распавесці пра іх? І вайну з пункта гледжання новых ведаў і новых асэнсаванняў можна і трэба, пэўна, апісваць інакш. Вось жа, адразу пасля Перамогі паўсюль толькі пра подзвігі пісалі. Але вайна — гэта не толькі подзвігі. Гэта цяжкая праца, якая даводзіць да знямогі. Гэта шэрыя салдацкія будні, гэта смяротная стома, гэта — здранцвенне, прытупленне пачуццяў (а без іх чалавек, пэўна, ператварыўся б у вар'ята). Альбо вось яшчэ. Ці ёсць у нас цяпер творы пра звычайнае жыццё гэтак званай "партызанскай зоны"? Партызаны цалкам кантралявалі вялікую тэрыторыю ад Полацка да Ушачаў. На гэтай тэрыторыі людзі ў ваенны час жылі абсалютна мірна і нават руцінна. Вось бы напісаць пра тое, як партызаны ў гэтай вольнай зоне арганізоўвалі, напрыклад, веснавы сеў! У архівах ёсць шмат цікавых дакументаў пра гэта. Магчымасцей і спосабаў шмат. Толькі праўду не трэба скажаць. Праўда ж у тым, што народ быў у еднасці з арміяй і ў еднасці з партызанамі. Мужнасць у паветры не нараджаецца. Яна спее ў сэрцах людзей, упэўненых у сваёй праваце і ў тым, што яны будуць зразуметы і ўшанаваны за дзейнасць сваю родным народам.

# Жыццё ў тым, што запісана

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

**У РВУ "Літаратура і Мастацтва" выйшаў зборнік нарысаў "Вечны агонь Перамогі", прысвечаны Героям Савецкага Саюза, якія жывуць у Беларусі ці толькі нядаўна пакінулі гэты свет.**

Цяжка спрачацца з польскім філосафам Тадэвушам Катарбіньскім, які аднойчы сказаў: "Мінулае, якое захоўваецца ў памяці, ёсць частка сучаснасці". Здавалася, што яшчэ патрабуецца для таго, каб трагічныя падзеі 1940-х гадоў назаўсёды засталіся ў людской памяці? Кожны трэці забіты ці памерлы. Разбураныя гарады. Разрабаваная гаспадарка.

Але такая ўжо ўласцівасць чалавечай псіхікі: не акцэнтаваць увагу на негатыўных эмоцыях, перамяшчаць іх на другі план, а часта, у рэшце рэшт, і наогул забываць. Акрамя таго, у любое грамадства ўвесь час прыходзяць новыя пакаленні, для якіх мінулае — гэта нешта далёкае, забытае і абстрактнае. Між тым, трэба спяшацца. З пачатку вайны прайшло ўжо 70 гадоў, адзінкі з тых, хто былі ў 1941-м маладымі юнакамі, і сёння побач з намі. Калі не паспець запісаць іх успаміны, заўтра ўжо можа быць позна.

Як давесці новым пакаленням неабходнасць захавання памяці пра вайну? Чым зацікавіць? З фармулёўкай адказу на першае пытанне пакуль пачакаем. А вось на другое прарэагуем адназначна: зразумела, новымі фактамі, забытымі героямі, невядомымі падрабязнасцямі ваенных гадоў. Усё гэта можна знайсці ў "Вечным агні Перамогі".

Кніга стала сумесным праектам часопісаў "Нёман" і "Полымя", на старонках якіх спярша друкаваліся гэтыя аповеды. Выданне адкрываецца прадмовай старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Чаргінца і вершам паэта М. Мятліцкага "Перамога". А далей змешчаны нарысы,




аўтарамі якіх выступілі С. Антановіч, Г. Ануфрыеў, Н. Гальпяровіч, М. Гарэцкая, В. Гардзей, У. Гаўрыловіч, Л. Екель, А. Зэкаў, Л. Кебіч, А. Крэйдзіч, А. Марціновіч, М. Мятліцкі, П. Сабіна, М. Шамякіна, М. Шэлехаў ды іншыя творцы. Адным з аўтараў кнігі быў А. Мяснікоў, які нядаўна пайшоў з жыцця.

Хто ж з'яўляецца героямі новай кнігі? Канстанцін Лазаненка, Мікалай Зайцаў, Іван Міранкоў, Мікалай Далжанскі, Дзмітрый Жмуроўскі, Віктар Вятошкін, Анатоль Дзюбко, Аляксандр Барданаў, Іван Кустаў, Мікалай Гарбанёў і шэраг іншых вядомых Герояў. Кожны з іх варты асобага прадстаўлення. Але дазволю сабе спыніцца на біяграфіі Рыгора Дзенісенкі. З аднаго боку, яна чамусьці ўразіла мяне найбольш. З другога, як ні банальна, з'яўляецца досыць тыповай для ўсіх герояў кнігі.

Ураджэнец Харкаўскай вобласці, Дзенісенка з дзяцінства марыў пра неба. Займаўся ў аэраклубе. Пасля заканчэння ў 1943 годзе ваенна-авіяцыйнай школы трапіў на фронт у якасці "штурмавіка". *"Штурмавікоў называлі «паветранай пяхотай», бо яны, як і пяхотнікі на полі бою, неслі самыя вялікія страты сярод лётчыкаў,* — распавядае Рыгор Кірылавіч. — *Лятаць на вельмі нізкіх вышынях. Нашы самалёты можна было збіць нават з пісталета, і ўсё ж ваявалі! Думаеце, чаму? Добрыя людзі былі побач і шмат чаму вучылі!"* Гітлераўцы шэсць разоў збівалі ў баі самалёт, які пілатаваў Дзенісенка. *"Двойчы яму даводзілася скакаць з парашутам з ахопленай полымем машыны,* — піша У. Гаўрыловіч, — *але ўсё абыходзілася — пілот заставаўся жыць і працягваў ваяваць"*. Пасля вайны Дзенісенка працаваў у саратаўскім аэраклубе, дзе вучыў маладога Юрыя Гагарына. Цяпер ён застаўся адзіным Героем Савецкага Саюза на Гомельшчыне. Але ўявіце сабе: нават у 87-гадовым узросце Дзенісенка штораніцы праходзіў бадзёрым крокам па 10 — 12 кіламетраў, з ранняй вясны да глыбокай восені купаўся ў Сажы, пакуль вада не астывала градусаў да васьмі.

Тым чытачам, якія цікавяцца спортам, а дакладней, яго гісторыяй, найбольш цікавым будзе нарыс пра Віктара Лівенцава, што пасля барацьбы з фашыстамі ў партызанскім атрадзе зрабіў вялікую кар'еру. На працягу дваццаці гадоў ён узначальваў галоўнае спартыўна-фізкультурнае ведамства рэспублікі — Камітэт па фізічнай культуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР. *"У гэты час,* — пісаў А. Мяснікоў, — *былі пабудаваны мінскія Палац спорту, воднаспартыўны камбінат, стралковы комплекс імя Цімашэнкі, спартыўныя базы "Стайкі", "Ратамка", "Уручча" і "Раўбічы", заснаваны добра вядомыя ва ўсім спартыўным свеце беларускія школы па фехтаванні, спартыўнай гімнастыцы, вольнай і класічнай барацьбе, лёгкай атлетыцы, веславанні на байдарках і каноэ, ручным мячы і іншых відах спорту"*. Беларусы неаднаразова перамагалі на летніх і зімовых Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах свету і Еўропы. А імёны Вольгі Корбут і Аляксандра Мядзведзя гучалі па ўсім свеце. Хтосьці з чытачоў зацікавіцца сваімі землякамі. Зрэшты, не сумняваюся, кожны з герояў кнігі варты ўвагі і цікавасці з боку чытачоў.

А цяпер вернемся да згаданага раней пытання. Як даказаць кожнаму новаму пакаленню неабходнасць захавання памяці пра вайну? Будзем шчырымі, патрыятычныя заклікі і апеляцыя да вечных каштоўнасцей спрацоўваюць далёка не заўсёды. Каб пераканаць нябачных апанентаў у сваёй слушнасці, працытуем урывак з верша паэтэсы Людмілы Рублеўскай, аднаго з лепшых у яе творчай біяграфіі: *"І нас забудуць непапраўна рана, // Як мы забылі — так забудуць нас. // Наш след зямны загасіцца, як рана, // Як гасне слуцкі залаты пояс. // Не затрымаецца ні радком, ні вершам. // Парсуна страціць колер і імя. // Хто быў апошнім — той не стане першым, // А першага — таксама з'есць зямля"*.

Сапраўды, кожнае пакаленне, якое з'яўляецца на белы свет, наўрад ці адчувае бег часу. Так, іх прашчуры сыходзяць, але кожны думае, што яны і іх аднагодкі прыйшлі на зямлю назаўжды. Як жа тады застацца ў вечнасці? "Напісаць вялікі твор", — скажуць класікі. Але ж гэта дадзена не кожнаму. А можа, прасцей не забываць сваё мінулае, сваіх папярэднікаў, дзякуючы якім ты з'явіўся на свет. І спадзявацца, што далёкія нашчадкі не забудуць і цябе: *"Я Памяці служу, як служаць храму. // Між мною і мінуўшчынай — не тло, // А лёгкі дождж і агароджа брамы — // Арханегла празрыстае крыло. // І, можа, я таксама — толькі кніга // З лістамі, недаступнымі дажджу. // Няхай маё імя забудуць звыкла, // Я буду жыць у тым, што запішу"*.

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# Міфалогія вяртання

## Беларуская проза першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя

**Усё часцей у якасці героя нашага часу выступае ў творах беларускіх празаікаў персанаж, чыёй характаралагічнай, “родавай” адзнакай з’яўляецца яго прафесійная спрычыненасць да літаратуры: апавяданні Л. Дранько-Майсюка “На Калядны, на Каляды…” (2004), аповесць Вітаўта Чаропкі “Fatis Volentibus. Калядная містэрыя” (2008), раман Л. Рублеўскай “Сутарэнні Ромула” (2009—2010) і інш. Многія з гэтых персанажаў выконваюць ролю так званага я-героя. Але і ў іншых выпадках адлегласць паміж літаратурнымі героямі і іх прататыпамі мінімалізуецца аўтарам (апавяданне Я. Сіпакова “Лета 2002 году”, 2002, аповесць А. Федарэнкі “Повесць”, 2006) альбо наогул адпрэчваецца — як у аповесці М. Адама “Насця” (2009) ці ў рамане-эсэ А. Федарэнкі “Мяжа” (2008—2009).**

Цікава, што самі варункі айчыннага літаратурнага жыцця становяцца не проста дэкарацыямі, на фоне якіх раскрываецца вобраз героя-літаратара, але і аб’ектам шматаспектнага мастацкага асэнсавання. Адным з самых яркіх такіх твораў стаў раман А. Федарэнкі “Рэвізія”, над якім аўтар працаваў больш як паўтара дзесяцігоддзя (з 1987 па 2003 год; апублікаваны ў 2004-м). Узаемапераплятанне розных часавых і гісторыка-культурных пластоў (калялітаратурных варункаў канца 1980-х і падзей, што адбываюцца ў 1920-я) вызначае спецыфіку хранатопа твора, сутнасць якой не можа быць вытлумачаная праз паняцце “паралельнага” аповеда. Асобнай увагі вартая складаная структура раманнага героя, перадусім, вобраза цэнтральнага персанажа, які ў Мінску 1989 года пражывае жыццё студэнта Алеся Трухана, а ў 1920-х аказваецца чырвонаармейцам Алесем Трухановічам: “Плаваючы паміж эпохамі, жывучы адначасова двума жыццямі, ён спакваля — сон за сном, запіс за запісам — падрыхтаваў сябе да таго, што два гэтыя жыцці, як дзве няроўныя, непаралельныя прамыя, паступова будуць усё больш выроўнівацца, рабіцца паралельнымі, збліжацца — пакуль не сальюцца, не злучацца нарэшце ў адну…”

Побач з ужо пералічанымі адметнасцямі рознаўзроўневае выкарыстанне паэтыкі снабачання, мастацкіх магчымасцей сімвалізацыі, арыгінальная інтэрпрэтацыя канцэпту “дваення душы” (выключная важнасць якога для нацыянальнай літаратуры была сцверджаная яшчэ М. Гарэцкім), спалучэнне ў аповедзе эпічнай маштабнасці і філасофскай медытатыўнасці дазваляюць гаварыць пра “Рэвізію” як пра бліскучы ўзор найноўшага рамана, дзе эстэтычныя і выяўленчыя магчымасці рэалістычнага метаду напоўніцу скарыстаныя дзеля выяўлення надзвычай актуальнага для беларускай культурнай прасторы комплексу сацыяльна-філасофскіх праблем.

Творчай манеры А. Федарэнкі наогул уласцівае спалучэнне рэалістычнасці аповеда, псіхалагічнай выверанасці з нечаканасцю сюжэтных паваротаў, займальнасцю інтрыгі. У выніку рэчаіснасць не проста адлюстроўваецца ў вобразах, але насамрэч ажывае, здаецца рэльефнай, *сапраўднай*. Форма *рамана-эсэ* — своеасаблівага “рамана-ракі” — верагодна, падалася аўтару “Мяжы” найбольш гнуткай, пластычнай, максімальна прыдатнай дзеля ўвасаблення таго асобаснага зместу, які за акрэсленаю самім аўтарам мяжою бачыцца ўніверсальна важным — і важкім. Пад шыльдай рамана-эсэ ладзіцца сапраўдны фестываль жанраў: побач з сюжэтнымі мініяцюрамі навелістычнага характару, публіцыстычнымі развагамі, успамінамі мемуарнага кшталту А. Федарэнкам нанізваюцца на ланцуг эсэістычнай вандроўкі па ўласным “жыцці-творчасці” бліскучыя — паводле мастацка-стылявога ўвасаблення — узоры лірычнай прозы. Ці не кожная з падобных “фрэсак”, пры ўсёй іх сціплай лаканічнасці, выцягвае на паверхню чытацкіх рэфлексій асацыяцыі ўзвышана-велічныя — напрыклад, пра трываласць класічнай беларускай прозы, пра яе каштоўнасць, асабліва для найноўшай славеснасці, якая амаль развучылася вучыць людзей быць шчаслівымі:

“Вось гэты час, пакуль настройваешся, пакуль баішся глядзець на ўтыркнутую ў бераг палачку ад донкі, пакуль носяцца ў галаве малюнкі зімы, сябе малога, калі сонца залівае чырвона-малінавым золатам лёд, а шчокі гараць, і каля студні бразкае нечае вядро, пахне дымам, лёдам, зімою, і хутка ўжо вячэра, а там — цёплая печ і зашмальцаваная кніжка Мележа, якую разгортваеш у любым месцы і дрыжкі бягуць па целе ад незвычайнай, чароўнай музыкі простых словаў, якія нейкім дзіўным чынам пастаўлены ў такі парадак, што ўжо не проста словы, а пахі, музыка, нейкі сум, нейкая весялосць, гэты час няўлоўных думак-успамінаў для мяне — шчасце”.

Вытокам грамадзянскага аптымізму становіцца для пісьменнікаў найчасцей менавіта мінуўшчына. Можна гаварыць, што нават у параўнанні з канцом 1990-х гадоў беларуская гістарычная проза ў 2000-х перажывае відавочны ўздым, звяртаючы на сябе ўвагу як тэматычна-праблемнай разнастайнасцю, так і жанрава-стылявым поліфанізмам.

Нягледзячы на тое, што ў гістарычных творах апошняга дзесяцігоддзя гісторыя нярэдка перажываецца як *непадробная* (“першасная”) рэальнасць, чытач не адчувае сябе сведкам уцёкаў ад панылай рэальнасці ў асмужаную рамантычнай героікай “сівую легенду”. На наш погляд, менавіта ў мастацка-эстэтычнай прасторы сённяшняй гістарычнай прозы запачаткоўваецца найноўшая гісторыя нацыянальнага аптымізму, прычым кожны з тых, хто да яе далучаецца, не мае шанцаў застацца простым назіральнікам. Дынамічнае развіццё беларускай гістарычнай прозы наўпрост звязана з усведамленнем празаікамі выразнага кантрасту паміж годнай героікай мінулых стагоддзяў і прагматызаваным “гераізмам” сучаснасці. У пэўным сэнсе, сённяшні беларускі пісьменнік — экзістэнцыйны рамантык, у якога проста няма выбару, рухацца яму следам за агульнай плынню ці насуперак ёй.



Аляксандр Сільвановіч “Аблога Мальбарка”

Траекторыя супраціўнага руху адных празаікаў “вяртае” ў язычніцтва (аповесць В. Іпатавай “Апошнія ахвяры свяшчэннага дуба”, 2006, раманы З. Дудзюк “Кола Сварога”, 2003, “Велясіты”, 2004), менавіта ў ім яны расшукваюць вытокі нацыянальнай ідэнтычнасці. Іншыя імкнуцца прасачыць станаўленне нацыянальнай самасвядомасці ў розныя гісторыка-культурныя перыяды, вытлумачыць сутнасць беларушчыны як духоўнага і сацыякультурнага феномена: згадаем “Пакліканыя. Раман-жыціе” (2002) В. Коўтун; раманы “Альгердава дзіда” (2001), “Каралева не здраджвала каралю, або Каралеўскае шлюбаванне ў Навагародку…” (2002—2005) А. Бутэвіча, “Ідзі і кажы” (2006) Э. Ялугіна, “Назаві сына Канстанцінам” (2008) Л. Дайнекі; аповесці “Апошняе каханне Міндоўга” (2000), “На вайне” (2009) К. Тарасава, “Глеб Менскі” (2005) Я. Конева, “Лінія разлому, або Каралеўская галгофа. Спавядальна-пакаянны маналог найвышэйшага князя літоўскага і караля польскага Ягайлы, які з Крэва ў Кракаў з’ехаў” (2005) А. Бутэвіча, кнігу гістарычных апавяданняў і эсэ У. Арлова “Каханак яе вялікасці” (2004) і інш.

Звяртаючыся да мастацкага аднаўлення нацыянальнага быцця ў лёсавызначальныя, пераломныя, трагічныя перыяды беларускай гісторыі, празаікі аддаюць перавагу вялікім раманным формам; у асобных выпадках гэта мае плёнам стварэнне надзвычай маштабных эпічных палотнаў — як трылогія “Пакутны век” (2006) В. Якавенкі. Раманы У. Гніламёдава “Усход (Сямейная хроніка ў духу барока)” (2003), “Уліс з Прускі” (2006), “Расія” (2007), “Валошкі на мяжы” (2009) утвараюць адмысловую “сагу”. Разгортваючыся ў традыцыях класічнага рэалістычнага эпасу, мастацкая хроніка сям’і Кужаляў набывае сімвалічную важкасць гісторыка-мастацкага летапісу, дзе занатоўваюцца важнейшыя падзеі нацыянальнай гісторыі XX стагоддзя.

Ідэя стварэння “сямейнай хронікі” знаходзіць увасабленне і ў “рамане ў апавяданнях” Я. Сіпакова “Зубрэвіцкая сага” (1997—2007). Дзеянне гэтага твора распачынаецца ў часы палявання людзей на мамантаў і дацягваецца да часоў Другой сусветнай вайны. Паступова з асобных мазаічных фрагментаў (твор аб’ядноўвае шаснаццаць аповедаў, адрозных у жанрава-тэматычным і стылявым плане) “складваецца” гісторыя вёскі Зубрэвічы, якая дзіўным чынам прачытваецца як гісторыя агульнабеларуская. Гэтаксама ў творы К. Цвіркі “Будзіла вёску берасцянка. Аповесць пра Зялёную Дуброву”, што складаецца з невялікіх аповедаў-навел (“Паўловічы”, “Нашчадкі Андрэя Дубовіка”, “Парахні”, “Шумскія з Карповічамі” і г.д), мастацкая “біяграфія” палескай вёскі вырастае з “фрагментаў” сямейнай хронікі роду Цвіркаў. Зялёная Дуброва, разам з тым, становіцца самастойным вобразам-персанажам, у *жыццяпісе* якога, бы ў кроплі роднасці, адлюстроўваецца цэлы сусвет.

Пісьменнікі сярэдзіннага пакалення факусіруюць сваю ўвагу на падзеях і асобах выключных, ахутаных арэолам не проста гераічным, але героіка-трагедыйным, ахвярна-пакутніцкім (аповесць А. Федарэнкі “Нічые”, 2001, цыкл “Шляхецкія апавяданні” Л. Рублеўскай і інш.).

Асабліва актуальнымі (перадусім, для сённяшняга чытача) паўстаюць гісторыка-прыгодніцкія, гісторыка-дэтэктыўныя, гісторыка-авантурныя творы, генетычна звязаныя з неарамантычнай канцэпцыяй нацыянальнай гісторыі, увасобленай у гістарычнай прозе У. Караткевіча. Рух у рэчышчы караткевічаўскай традыцыі не азначае прасталінейнага запазычання ідэй, тэм, вобразаў; больш мэтазгодна гаварыць пра іх актыўнае засваенне шляхам пераасэнсавання ў новай эстэтычнай і мастацкай парадыгме.

У сучасным беларускім сацыякультурным кантэксце запатрабаванасць гістарычных твораў згаданага кшталту шырокай чытацкай аўдыторыяй наўпрост залежыць ад таго, наколькі арганічна аўтару ўдаецца спалучыць асветніцкія мэты з займальнасцю выкладання, героіка-рамантычны пафас — з напружанай інтрыгай. У першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя такіх твораў у беларускай прозе не бракавала. У іх ліку — раман А. Наварыча “Літоўскі воўк” (2003), сюжэт якога звязаны з падзеямі 60-х гадоў XIX стагоддзя; аповесць К. Тарасава “Обер-аўдытарская праверка ў Нясвіжы, альбо Скарб князя Радзівіла” (2006); творы Я. Конева, прысвечаныя Т. Касцюшку: аповесць “Срэбны арол у чырвоным полі” (2000—2002), цыкл раманаў “Амерыканская адысея Тадэвуша Касцюшкі” (2002—2004), “Грэчкасейная ідылія Тадэвуша Касцюшкі” (2008), “Літоўская адысея Тадэвуша Касцюшкі” (2009); апавяданне П. Ляхновіча “Золата князёўны” (2006) і інш.

Адметнае месца ў абсягах гістарычнай прозы 2000-х займаюць творы Л. Рублеўскай, дзе гісторыя і сучаснасць знаходзяцца ў надзвычай цікавых стасунках. Адметнасцю сюжэтна-кампазіцыйнай будовы аповесцей “Сэрца мармуровага анёла” (2000), “Пярсцёнак апошняга імператара” (2001), “паралельнага рамана” “Золата забытых магіл” (2003), “гатычнага рамана” “Скокі смерці” (2005), “рамана-інструкцыі” “Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію” (2008) з’яўляецца поліфанічнае суіснаванне ў адным мастацкім хранатопе розных часавых пластоў, якія па меры разгортвання аповеда ўзаемапераплятаюцца і як бы “перацякаюць” адзін у адзін.

(Заўважым, што да падобнага тыпу структуравання хранатопу выяўляў цікавасць і шэраг іншых пісьменнікаў, у выніку чаго з’явіліся такія арыгінальныя творы, як аповесці “Паляванне на Любаву, або Інтымная хроніка часоў міжвер’я” Г. Багданавай, 1989 — 1999, публ. 2000, “Здані Гарадніцы”, Я. Конева, 2009, раманы М. Клімковіча і У. Сцяпана “Тэолаг”, 2005, “Цень анёла”, 2007 — 2008, і інш.).

Сімвалічная сутнасць канфліктаў у аповесцях і раманах Л. Рублеўскай выяўляецца праз сутыкненне годнай, ахвярнай мінуўшчыны і прагматычнай, скварна-драпежнай сучаснасці. Апошняй амаль заўсёды даецца шанц на духоўнае ачышчэнне: у пэўным сэнсе, мёртвыя (героі былых эпох, пакутнікі за Беларусь колішнюю і будучую) ратуюць жывых, дапамагаючы адшукаць ці канчаткова не страціць сэнс існавання.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# На шляху да падагульнення

**Нядаўна "ЛіМ" расказваў пра мерапрыемства, якое прайшло ў кнігарні "PRэзентацыя". На працягу абмену рэплікамі арганізатары — выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" — і ўдзельнікі раскрылі некаторыя з набалелых пытанняў, што выснаваліся ў ходзе працы над энцыклапедыяй "Максім Багдановіч". Прапануем чытачу вытрымкі з размовы, якая завязалася падчас правядзення нарады. Мы спадзяёмся, што самі па сабе меркаванні, выкладзеныя ў выступленнях розных удзельнікаў дыскусіі, ужо з'яўляюцца вартым грунтам будучай вялікай справы — персанальнай энцыклапедыі "Максім Багдановіч".**

**Таццяна Бялова, дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі"**: "Максім Багдановіч" будзе трэцяй у гісторыі беларускага кнігадрукавання персанальнай энцыклапедыяй. Святкаванне 120-годдзя ўжо ідзе. Безумоўна, трэба выдаць энцыклапедыю напярэдадні юбілею, як мага раней. Бо калі спазніцца, то ў нас будзе вельмі мала часу на рэкламу, на прэзентацыі, якія б арганічна ўвайшлі ў праграму святкаванняў.

**Мікалай Трус, кандыдат філалагічных навук, навуковы кіраўнік праекта**: Калі зрабіць экскурс у гісторыю таго, што сёння паўстае, то сама ідэя энцыклапедыі "Максім Багдановіч" узнікла на хвалі працы над энцыклапедычным даведнікам "Янка Купала". Адным з ініцыятараў энцыклапедыі пра Багдановіча быў Янка Саламевіч. Яшчэ ў 1980-я распрацаваны слоўнік. Цяпер ён уключае 2300 найменняў, але і сёння папаўняецца. Гэта абумоўлена новымі патрабаваннямі часу. Напрыклад, з'явілася патрэба далучыць артыкул "Творчасць М. Багдановіча ў інтэрнэт-прасторы". Штосьці і выключаецца з пазіцый слоўніка. Часопіс "Роднае слова" на працягу гадоў вёў адмысловую рубрыку "Да энцыклапедыі "Максім Багдановіч". Гэта дазволіла пашырыць сілавое поле энцыклапедыі. Сышліся і пакаленні літаратуразнаўцаў. Гэта і працы спачылых класікаў нашага літаратуразнаўства: Генадзя Кісялева, Генадзя Каханоўскага, Мікалая Грынчыка, а ў той жа час далучаны маладыя сучасныя навукоўцы.

Юбілейны год стымулюе працу. Падключаныя Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, профільныя кафедры ўніверсітэтаў — БДУ, БДПУ, рэгіянальных адукацыйных цэнтраў, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Узнікла і такая сітуацыя: каля сотні артыкулаў працяглы час знаходзіцца ў стане падрыхтоўкі. Просьба да прысутных: падключыць адміністрацыйны рэсурс, каб вырашыць гэтае пытанне. Хочацца, каб праца была карэктная і канструктыўная.

**Таццяна Шэлягові́ч, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча:** Вельмі добра, што ідэя гэтага выдання не сышла ў нябыт. У 2007 г., калі мы ладзілі традыцыйную канферэнцыю па творчасці Максіма Багдановіча, то распрацавалі выніковы дакумент: грунтоўны, напоўнены шмат якімі пунктамі на далейшае даследаванне творчасці Максіма Багдановіча. Адным з пунктаў стаяла аднаўленне працы па выданні энцыклапедыі "Максім Багдановіч". Усе ўдзельнікі прагаласавалі "за".

Наш ліст у "Беларускую Энцыклапедыю" падпісалі і супрацоўнікі музея, і многія выдатныя беларускія навукоўцы. Выдавецтва прыхільна аднеслася да прапановы. Міністэрства інфармацыі падтрымала. На працягу трох гадоў вялася праца: шчыра папрацавалі над слоўнікам, над напісаннем артыкулаў. Нарэшце, пастановай Савета Міністраў, якой зацвярджаўся План мерапрыемстваў па святкаванні 120-годдзя Максіма Багдановіча, другім пунктам было пазначана выданне энцыклапедыі "Максім Багдановіч". Гэта дае ўпэўненасць, што выданне адбудзецца — універсальнае, фундаментальнае і ўсім даўно патрэбнае. Творчасць Багдановіча вывучалася заўсёды на самым высокім навуковым узроўні. Мы падышлі да сваёй часткі працы з вялікай адказнасцю. На сёння 135 артыкулаў напісана супрацоўнікамі музея. Нам прыемна быць далучанымі да гэтага. Праца над энцыклапедыяй для нас не з'яўляецца экстрэмальнай, бо за трыццаць гадоў існавання музей назапасіў вялікі аб'ём матэрыялаў па асобе Максіма Багдановіча. Тыя артыкулы, якія мы на сябе ўсклалі, будуць здадзеныя ў тэрмін.

Трэба сказаць, што некаторыя пазіцыі слоўніка трэба выключыць. Па іх зусім няма ніякай інфармацыі. Відаць, тое ці іншае прозвішча патрапіла туды выпадкова. Значнасці яны не маюць.

**Вячаслаў Рагойша, доктар філалагічных навук, БДУ:** Што гэта за прозвішчы?

**Мікалай Трус:** Гэта тычыцца знаёмых Максіма Багдановіча. Сапраўды, відаць, больш мэтазгодна малаявядомыя прозвішчы даваць "праз коску" ў агульным артыкуле пра атачэнне паэта, а на асобны артыкул прэтэнзіі залішнія.

Адзначу, што некаторыя пасольствы далучаюцца да пошукаў звестак пра перакладчыкаў вершаў Максіма Багдановіча, але тут не ўсё так проста.

**Вячаслаў Рагойша:** Трэба звяртацца ў саюзы пісьменнікаў гэтых краін. Хоць сувязі паміж краінамі СНД істотна аслаблі, але і цяпер павінны адгукнуцца, калі спрабаваць настойліва.

**Ларыса Языковіч, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі":** Пакуль што ў нас прайшла трэцяя частка артыкулаў. Праца ідзе над іх рэдагаваннем. Трэба актывізаваць нашу рэдкалегію: ёсць кіраўнік праекта, але павінна быць дапамога і іншых даследчыкаў. Па некаторых артыкулах ёсць розныя меркаванні, і рэдкалегія мусіць іх вырашаць. Увогуле працы яшчэ даволі многа. Каля 300 артыкулаў дагэтуль застаюцца нездадзенымі. Калі мы хочам выдаць энцыклапедыю ў верасні, то здаць на паліграфію кнігу трэба напрыканцы жніўня. Адпаведна, скончыць усю працу ў канцы ліпеня. Лічыце самі, колькі засталося. Пытанні ёсць і наконт ілюстрацый. У даведніку "Янка Купала" было 602 ілюстрацыі. Верагодна, у энцыклапедыі "Максім Багдановіч" будзе таксама больш-сць чорна-белых ілюстрацый.

**Мікалай Трус:** Але з увагі на сучасную кліпавую свядомасць трэба рабіць акцэнт на каляровыя ілюстрацыі. Хаця зразумела, што арыгіналы фактычна ўсіх здымкаў самога Багдановіча, яго сваякоў, сяброў — чорна-белыя.

**Ларыса Языковіч:** Трэба пачынаць работу над тым, якім чынам наогул мы будзем ілюстраваць. "Янка Купала" — гэта эталон. Але ў той жа час гэта энцыклапедычны даведнік. У нас статус вышэйшы — энцыклапедыя. Некаторыя рэчы пажадана рабіць на іншым узроўні. Трэба даваць толькі тую ілюстрацыю, якая будзе несці інфармацыйную нагрузку. Фотаздымкі павінны быць ужо цяпер на апрацоўцы. Адзін здымак часам апрацоўваецца адзін дзень. Калі мы хочам мець высокі ўзровень, то рабіць якасць трэба ўжо сёння.

**Мікалай Трус:** Артыкулы, праўда, будуць больш раскаваныя, у параўнанні з "Янкам Купалам", больш сучасныя стылістычна. Але патрэбна будзе экспертыза, каб зняць спрэчныя моманты. Гэтага прасіць не абысці. Датычна і да шырокіх тэм: напрыклад, "Гуманізм у творчасці Максіма Багдановіча". Тут трэба добра ўчытацца. Што да ілюстрацый, то калі пэўных выяў няма ў Беларусі, трэба звяртацца і ў фондасховішчы іншых краін. Каб яны даслалі патрэбныя ілюстрацыйныя матэрыял.

**Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва:** Звярну ўвагу на тое, што сёлета сайт "Архівы Беларусі" рыхтуе традыцыйную інтэрнэт-выставу. Адбываецца гэта так: згодна з міжархіўнай пастановай усе сховішчы пачынаюць выяўленне дакументаў і матэрыялаў, датычных той ці іншай постаці. Усе дакументы скануюцца і аб'ядноўваюцца ў адну экспазіцыю на сайт. У гэтым годзе выстава будзе прысвечана Максіму Багдановічу. Вы павінны афіцыйна звярнуцца ў Дэпартамент па архівах і справаводстве, і гэтыя сканаваныя матэрыялы будуць перасланыя стваральнікам энцыклапедыі. Што датычыцца БДАМЛМ, то ў нас усё, што звязана з асобай Максіма Багдановіча, даўно адсканавана, і таму можна прыйсці і зрабіць копіі па першай замове.

**Вячаслаў Рагойша:** Мне даводзілася прымаць удзел і ў стварэнні БелСЭ і ЭЛіМБел. Але тады гэта крыху па-іншаму вырашалася. Было не выдавецтва, а адказны за энцыклапедычную справу апарат. Першую рэдакцыю артыкул праходзіў у вузкага спецыяліста. Калі ж чалавеку артыкул быў замоўлены і тэрміны выйшлі, то ніякім "добрым хлопцам" ніхто не прыкрываўся. І сёння нам не трэба баяцца кагосьці пакрыўдзіць. Мы мусім ставіцца да падобных эксцэсаў вельмі жорстка, інакш энцыклапедыя не выйдзе ў тэрмін. Гэта нацыянальная справа, удзельнічаць у стварэнні энцыклапедыі "Максім Багдановіч" — вялікі гонар. А калі чалавек не разумее і падрывае справу, то трэба пераразмеркаваць адпаведныя артыкулы. Другое: неабходна актывізаваць працу рэдкалегіі. Прапаную цяпер, на заключнай стадыі, збірацца мінімум раз на два тыдні і чытаць тое, што гатова на сённяшні дзень.

**Таццяна Бялова:** Выдавецтва працуе цяпер над дзясяткамі розных выданняў. Наступным разам, у хуткім часе, мы збяромся рэдкалегіяй. Першы выпуск энцыклапедыі "Максім Багдановіч" будзе ў маі. Яго трэба размеркаваць па экспертах.

**Мікалай Трус:** Такім чынам, бліжэйшая задача — збор рэдкалегіі, каб абмеркаваць наяўны матэрыял і пераразмеркаваць артыкулы. Не зашкодзіла б узяць афіцыйны ліст ад Міністэрства культуры да архіўных сховішчаў, у якіх захоўваюцца матэрыялы пра Багдановіча. Каб яны аказалі энцыклапедыстам садзеянне ў працы.

Калі не мы, то хто? Калі не цяпер, то калі? Праца па даследаванні біяграфіі і інтэрпрэтацыі творчасці Максіма Багдановіча — працэс па сутнасці бясконцы. Але пэўную рысу падвесці неабходна.

***Ад рэдакцыі: паводле дамоўленасці з выдавецтвам лепшыя артыкулы энцыклапедыі "Максім Багдановіч" неўзабаве будуць надрукаваны ў штотыднёвіку "ЛіМ".***

---

Казімір КАМЕЙША

# Па абавязку памяці

**У цеснаватай для гэтай сябрыны зале Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа стаяла незвычайная цішыня, і ўсе ўважліва слухалі голас паэта. На той вечарыне Мікола Мятліцкі чытаў нам сваю новую паэму "Апалены золак" ("Маладосць", 2011, № 1), прысвечаную памяці сярэдняга сына Якуба Коласа Юркі Міцкевіча, які загінуў пад Масквой на самым пачатку вайны.**

Ва ўступе да працягу паэмы "Рыбакова хата" Якуб Колас піша:

*Мне боль пякучы сэрца гложа,*
*І сына ўспомню я свайго.*
*А дзе магіланька яго,*
*Мне адказаць ніхто не можа.*

Яшчэ адзін лёс, яшчэ адна загадка вайны замыкаецца на адрасе: палявая пошта № 220, 49-ы артылерыйскі полк, 3-ці дывізіён, 8-я батарэя…

Паэт ужо зусім іншага, пасляваеннага пакалення ад імя Памяці запрашае нас перанесціся ў той страшны 1941 год.

Думаецца, з'яўленню гэтага твора паспрыялі і ўспаміны малодшага сына песняра Міхася Міцкевіча "За вас зямлі я памалюся", надрукаваныя ў свой час у "Полымі" (2005, № 6).

Калі сам М. Міцкевіч для сваіх успамінаў выбраў форму "ліста наўздагон", своеасаблівага пісьма да брата, дык М. Мятліцкі звяртаецца да лірычнага маналогу, тым самым пераўвасабляючыся ў свайго героя. Адсюль і ўся ўсхваляванасць, і трывожная ўнутраная напружанасць, і падкрэсленая строгасць інтанацыйнага ладу, бо трэба трымаць споведзь і перад часам, і перад сучаснікамі.

У паэта заўсёды ёсць два апірышчы: уяўленне і роздум. Роздум — гэта разгорнутае вымалёўванне самой думкі; уяўленне ў сваю чаргу шмат у чым грунтуецца на рэаліях жыцця, а ў нашым прыкладзе — на тых жа ўспамінах малодшага брата.

Сам лірычны маналог сына ў першую чаргу звернуты да бацькі:

*Ты не судзі мяне так строга,*
*Што згас дачасна на вайне.*
*Бо зведаў сам тугу астрога,*
*І зразумееш ты мяне.*

Характэрна, што ўвесь час на працягу спавядальнага разгортвання паэмы, як своеасаблівы ўспых полымя, рэфрэнам гучаць словы Купалы: "Мне сняцца сны аб Беларусі".

З'яўленне вобраза Купалы таксама не выпадковае ў творы. Купала, часты госць Коласавай сям'і, вельмі любіў Юрку, як прызнаецца Міхась Канстанцінавіч, — за "справядлівасць, бясстрашша, гатоўнасць падзяліцца апошнім з сябрам, стойкасць, спрыт, любоў да блізкіх, любоў да Бацькаўшчыны".

Рэфрэн "Мне сняцца сны аб Беларусі" нібыта сам вынікае са свядомасці беларускай душы.

Патрон жа, што як дэталь узнікае і доўга вар'іруецца ў маналогу, таксама нясе сваю нагрузку. Ён як бы засцерагае новыя пакаленні ад будучых войнаў:

*Патрон — ён мой…*
*Жыцця другога*
*Знянацку ўжо не абарве.*

Не выпадкова напрыканцы паэмы аўтар запрашае нас у той самы парк, дзе некалі ўзвышалася Песнярова хата. Вось два юнакі на лаўцы разліваюць у шклянкі гарэлку. І чытачу не варта чакаць асуджэння іх. У хлопцаў свая памяць — яны прайшлі Афганістан. Сувязь пакаленняў ніколі не абрываецца і не павінна знікаць. Тэма, да якой звярнуўся ў сваёй паэме Мікола Мятліцкі, будзе хваляваць і паэтаў наступных пакаленняў. У гэтым пераконваюць мяне прачытаныя нядаўна радкі маладога Алеся Бараноўскага:

*Хай гучыць, як набат,*
*клёкат сумны*
*ў нябёсах бусліных,*
*Каб сустрэўшы салдата,*
*сваіх не хаваў ты вачэй.*

Абавязак памяці — святы абавязак. Ён не дае нам забыцца пра наша геraічнае мінулае, змушае думаць пра будучае, напаўняе душу верай у новы працаг жыцця.



Мікола Шабовіч

* * *

*У нашай вёсцы —*
*трыццаць тры двары,*
*Людзей з гадамі менее і менее.*
*А колькі іх палегла без пары*
*На той вайне з апошнімі завеямі?*

*І вёска-маці плача па сынах,*
*Маршчыніцца паціху ды сівеецца.*
*Зіма пабеліць учарнелы дах,*
*Ды пад яго сыны наўрад ці вернуцца.*

*У нашай вёсцы —*
*трыццаць тры двары.*
*І, нібы назаўсёды выпраўляючы,*
*Глядзіць мне ўслед*
*задумлівы стары,*
*З вачэй далонню слёзы выціраючы.*

## Мой востраў

*Ты — збавенне, мой востраў,*
*Куточак зялёны,*
*Я прыходжу сюды,*
*Каб спазнаць таямніцы жыцця.*
*Я прыходжу сюды*
*І стаю з галавою схілёнай*
*Перад роднай зямлёй,*
*Без якой не ўяўляю быцця.*

*Ты — збавенне, мой востраў,*
*Найлепшыя лекі*
*Ці ад суму,*
*ці то ад няспраўджаных слоў.*
*Ты не знаеш, мой востраў,*
*Які ты маленькі*
*Сярод розных*
*Не бачаных мной*
*Астравоў.*

*Ты — збавенне, мой востраў,*
*Куточак зялёны.*
*Я прыходжу сюды,*
*Каб паслухаць, як ліпы шумяць.*
*Ты звініш салаўямі,*
*І нібы апошнім праклёнам,*
*Як вачніцы вайны —*
*Мне акопы у вочы глядзяць...*

*Боль мой востры —*
*Мой востраў...*

* * *

*Вясна прыходзіць нетаропка —*
*І лёгка дыхаюць баразны.*
*З былых зямлянак і акопаў*
*Да сонца цягнуцца бярозы.*

*Нібы сцягі, нібы іконы.*
*На іх маліцца і маліцца*
*За тых, каго няма сягоння,*
*Хто быў да скону з той зямліцай...*

*Хоць не спыняецца ўзбраенне*
*І дзесьці чуюцца пагрозы,*
*Але з акопаў, на здзіўленне,*
*Да сонца цягнуцца бярозы.*

* * *

*Не бачыў я праклятай той вайны.*
*Чаму ж яна ў мае прыходзіць сны?*

*Чаму ў мяне страляе аўтамат?*
*Я ж чуў пра гэта толькі ад салдат.*

*Такое толькі бачыў у кіно.*
*Але чаму мне сніцца ўсё адно?*

*Крычу праз сон:*
*"Страляй жа, гад, страляй,*
*Фашысцкі кат,*
*сабака,*
*паліцай..."*

*І паміраю, нібы на вайне,*
*Не знаючы,*
*што гэта сніцца мне.*

## Вечны агонь

*Даўно лісты на дрэвах адпалалі,*
*Але гарыць ля помніка агонь,*
*Нібы салдаты*
*вогнішча расклалі*
*І грэюцца, як калісь, ля яго...*

*Я слухаю святую цішыню.*
*І мне святлей ад гэтага агню.*



Фота Кастуся Дробава



Павел Саковіч

## Сэрца ветэрана

*Даў Бог жывымі з той вайны*
*Вярнуцца нашым ветэранам.*
*За што змагаліся яны,*
*Штодня нагадваюць ім раны.*

*У іх за ўсё душа баліць,*
*Ды сэрца гордае не плача.*
*Яно сціскаецца, дрыжыць,*
*Якраз бы кулачок дзіцячы.*

*Са злом і крыўдаю адно*
*І днём і ноччу сэрца б'ецца...*
*Надзею страціўшы, яно*
*Апошняю*
*Гранатай узарвецца.*

## Навальніца

*Зіхцяць маланкі, бліскавіцы...*
*Здаецца, так, як і тады,*
*Душа сціскаецца, баіцца*
*Раптоўнай нейкае бяды.*

*Ва ўсім знаходзіш падабенства:*
*З маланкі вырвецца разрад,*
*Ударыць у зямлю з шаленствам —*
*Як быццам выбухне снарад.*

*А то нябачныя "кацюшы"*
*Накрыюць залпам агнявым.*
*Аж закладзе ад грому вушы,*
*На момант зробішся сляпым.*

*І на вайне як — Божа правы! —*
*Цяпер ані не разбярэш,*
*Адкуль страляюць — злева, справа,*
*Дзе наш і дзе чужы рубеж.*

*...Ды сціхла ўсё ў адну мінутку.*
*Душой змярцвелай ажывеш...*
*Каб войны так сціхалі хутка,*
*Каб не было іх болей — лепш!*

## Старэйшая сястра

*Мы сябравалі —*
*не разліць вадой.*
*Тады мне тры было,*
*сястры — пятнаццаць.*
*Яна, як з лялькай, насіцца са мной,*
*І я надоўга з ёй не мог расстацца.*

*Прыгожай, светлай Волечка была.*
*За ёю хлопцы бегалі б, няйначай...*
*Вайна тым летам губы апякла*
*Ёй пацалункам вогненным, гарачым.*

*Недавучылася сястра мая —*
*Вайна настаўніцаю ейнай стала.*
*Яе ж "урокі" брала ўся сям'я,*
*Ды выжыць як —*
*яна не падказала...*

*Сваю сястру даўно я перагнаў*
*Узростам, сілай, вопытам жыццёвым.*
*За гэты час дабро і зло спазнаў —*
*Цяпер за ўсё аддзячыць ёй гатовы.*

*Як прыйдзе момант непазбежны, той,*
*Пайду адсюль я з вераю святою,*
*Што там, за таямнічаю мяжой,*
*Сустрэнуся... з малодшаю сястрою.*



Вера Міхно

## Дзень Перамогі

*Палошчуцца флагі,*
*іграюцца маршы,*
*Вязуць ветэранаў*
*на грузавіках.*
*Каля абеліска*
*для воінаў паўшых*
*Чырвоныя ружы*
*ў жалобных вянках,*
*Ім вечная памяць*
*і слёзы на вейках,*
*У гонар іх залпы*
*салютаў грымяць...*
*А неба над Мінскам*
*цвіце феерверкам —*
*Нам жыць і заўжды*
*гэты дзень памятаць!*

* * *

*Не будзе болей няхай ніколі*
*Смяротнай бойні, гаротнай долі.*
*Няхай заўзята мужы-салдаты*
*Аруць зямельку, будуюць хаты.*
*Няхай буяе ў палях калоссе,*
*Жанкі спяваюць, а не галосяць.*
*Няхай прывольна жывуць на свеце*
*І бесклапотна смяюцца дзеці.*



Мікола Чарняўскі

## Праўда вайны

Роздум над кнігамі
Васіля Быкава, Івана Чыгрынава,
Алеся Адамовіча

*Праўду глянец не ўзвысіць ніколі,*
*Руж не трэба ёй,*
*Бліскавак срэбных.*
*Так, як птушкам патрэбна воля,*
*Чалавеку праўда патрэбна.*

*Як не будзе ні горка, ні колка,*
*Праўду сэрцу —*
*Як ніве колас.*
*І засмучаны плач перапёлкі*
*Будзіць праўды суровай голас.*

*З гэтым голасам*
*фальшу не ўжыцца*
*Ні ў пакутах, ні ў роспачы дзён:*
*Ён нянавісцю да чужынцаў*
*І адвагай узвышаны ён.*

*Чым жа мужнасць*
*людскую змераць?!*
*І ў няволі, пад знакам бяды,*
*Не гублялі сумлення і веры.*
*Іх, як зброю,*
*трымалі заўжды.*

*Голас праўды*
*падказваў прарочa:*
*Кім ні быў бы, —*
*Зямлю барані,*
*Каб захопнік*
*з драпежнасцю воўчай*
*Не падсек тваё ўраз карані!*

*У віхуры,*
*У спёцы бою*
*Не схіліся,*
*Не збоч,*
*Не скрыві —*
*Ёсць яшчэ апраўданне болю,*
*Ёсць яшчэ апраўданне крыві.*
*Ёсць яшчэ апраўданне*
*змаганню*
*Нашай помсты —*
*ўскіпела ў агні.*
*Толькі*
*здрадзе*
*няма апраўдання,*
*І забойцам — здзічэлай гайні!..*

*Праўду глянец*
*не ўзвысіць ніколі,*
*Руж не трэба ёй,*
*Бліскавак срэбных.*
*Так, як птушкам патрэбна воля,*
*Чалавеку праўда патрэбна.*

*Голас праўды,*
*як памяць, нятленны,*
*Ён Хатынямі —*
*Свету баліць...*
*Дзякуй кнігам,*
*што вучаць сумлення*
*Гэту праўду*
*Цаніць і любіць:*
*Гэту горкую,*
*Гэту мужную —*
*Завірушную, часам скрушную,*
*Гэту горкую,*
*Гэту вечную —*
*Чалавечую, чалавечную!*

Аляксандр ГУЖАЛОЎСКІ,
доктар гістарычных навук

**Прапануем увазе чытача працяг публікацыі выбраных старонак з будучай кнігі вядомага даследчыка А. Гужалоўскага, прысвечанай гісторыі цэнзуры відовішчаў у БССР 1920 — 1930 гадоў.**



*У сакавіку 1936 года Галоўрэперткам як структурнае падраздзяленне Галоўмастацтва Наркамасветы БССР разам з апошнім падвысіў статус, і на падмурку Галоўмастацтва з'явілася Упраўленне па справах мастацтваў, падпарадкаванае непасрэдна СНК БССР. Галоўрэперткам атрымаў статус структурнай адзінкі ўпраўлення. Адной з яго першых акцый у новым статусе было зняцце з рэпертуару БДТ-1 спектакляў "Сімфонія гневу" В. Шашалевіча (пастаноўка Л. Літвінава), "Недаростак" Д. Фанвізіна (пастаноўка П. Данілава), "Жакерыя" паводле П. Мерымэ (пастаноўка Л. Літвінава), "Зямля і неба" Л. Тура (пастаноўка М. Зорава), "Далёкае" А. Афінагенава; з рэпертуару БДТ-2 — "Недарэчнасць" К. Фіна (пастаноўка А. Дзікага), "Жаніцьба Фігаро" П. Бамаршэ (пастаноўка П. Антакольскага), "Гульня інтарэсаў" Х. Бенавентэ; з рэпертуару БДТ-3 — "Рыкашэт" У. Галубка (пастаноўка Разанава), "Контратака" Д. Курдзіна, з рэпертуару ТЮГа — "Мікола Гоман" В. Сташэўскага, "Ная" М. Зарэцкага; з рэпертуару ТРАМа — "Тарцюф" Ж. Б. Мальера і "Наша маладосць" С. Карташова; з рэпертуару Яўрэйскага тэатра БССР — "Забастоўка жняцоў" В. Зускінда і "Авечая крыніца" Лопе дэ Вега.*

# Чырвоны аловак

"З мэтай далейшага ачышчэння беларускага тэатральнага мастацтва ад палітычна шкодных, нізкаякасных, скажаючых гісторыю і савецкую рэчаіснасць спектакляў" пры Упраўленні па справах мастацтваў была створана спецыяльная камісія па праглядзе рэпертуару тэатраў БССР. ("ЛіМ". 1936. 31 снежня.)

Аднак неўзабаве дзейнасць упраўлення зрабілася аб'ектам публічнай грамадскай крытыкі. Вось як апісвае сучаснік стыль працы гэтай структуры, у тым ліку яе цэнзурную практыку: "На шостым паверсе Дома ўрада, у ціхіх пакоях, месціцца ўстанова, якая ўзначальвае фронт мастацтва нашай рэспублікі — Упраўленне па справах мастацтваў пры СНК БССР. Ідуць дні. Пухнуць тоўстыя папкі "спраў" — падшываюцца новыя і новыя загады, адносіны, планы. Браскочуць касцяшкі шчотаў у бухгалтэрыі. Усё гэта сведчыць аб тым, што ўстанова жыве, працуе. Але з дня ў дзень творчыя работнікі нашага мастацтва сцвярджаюць адно: не адчуваем мы сапраўднага кіраўніцтва сваёй працы, дапамогі, клопатаў… Тэатральны аддзел Упраўлення, які ўзначальвацца тав. Уханавым, абмяжоўвае свае функцыі толькі праглядам спектакляў пасля іх выпуску. Аддзел не займаецца важнейшымі пытаннямі кіраўніцтва — арганізацыяй творчай працы, вучобай і творчым ростам работнікаў тэатраў, іх палітычным выхаваннем… Калгасна-саўгасныя тэатры БССР таксама ведаюць работнікаў Упраўлення толькі як кантралёраў зробленай працы, а не як кіраўнікоў і творчых памочнікаў." (Юрын Р. Па-большэвіцку кіраваць мастацтвам "ЛіМ". 1938. 6 лютага.)

Пра стан арганізацыі цэнзуры відовішчаў у гэты час сведчыць таксама зварот начальніка Упраўлення па справах мастацтваў да сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі і старшыні СНК БССР К. Кісялёва, датаваны 27 снежня 1938 года. У ім, у прыватнасці, канстатавалася, што ўсю цэнзуру відовішчаў у маштабах рэспублікі ажыццяўляў адзін "недастаткова кваліфікаваны" чалавек, які знаходзіўся ў апараце ўпраўлення ў Мінску. У абласных цэнтрах спецыяльных асоб па кантролі за відовішчамі не існавала ўвогуле. На раённым узроўні відовішчы кантраляваліся мясцовымі "літамі" па сумяшчальніцтве, што дрэнна адбівалася на якасці іх работы. Атмасферу татальнага страху, які не абмінуў нават карныя органы, перадаюць прапановы кіраўніка беларускага мастацтва высокаму партыйнаму і дзяржаўнаму кіраўніцтву па паляпшэнні кантролю за рэпертуарам. Так, калі прапанова стварыць (чытай — аднавіць) апарат Галоўрэперткама ў цэнтры і на месцах зразумелая і падаецца лагічнай, дык кліч па дапамогу, адрасаваны партыйным і савецкім уладам, "…заслухваць пытанні рэпертуарных планаў тэатраў, канцэртаў і самадзейнасці" бы прадыктаваны жаданнем перакласці адказнасць за магчымыя памылкі ці, прынамсі, падзяліцца ёю з партыйнымі і ўладнымі структурамі.

Рэпрэсіі вельмі негатыўна адбіліся на стане тэатральнага мастацтва. Іх ахвярамі сталі ўсе: ад вартаўніка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета да кіраўніка Упраўлення па справах мастацтваў. Пасля турэмнага зняволення ў 1925 г. быў вымушаны з'ехаць з БССР адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра У. Фальскі. У 1930-м па справе СВБ як "члена контррэвалюцыйнай тэатральнай групы" арыштавалі і асудзілі на 5 год лагераў Ф. Ждановіча (расстраляны ў 1937-м). У 1937 годзе амаль у поўным складзе была арыштавана і расстраляна трупа БДТ-3 на чале з яе кіраўніком У. Галубком. Неаднаразова арыштоўваўся, звальняўся з працы як нацдэм і быў расстраляны ў 1938-м дырыжор і кампазітар, галоўны хормайстар БДТ-1 У. Тэраўскі. Годам раней арыштавалі і расстралялі кіраўніка Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра М. Рафальскага. У 1936-м быў арыштаваны па абвінавачванні ў трацкізме і расстраляны намеснік наркама асветы (1933—35 гг.), рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Х. Дунец. У канцы 1937 года арыштавалі і ў 1938-м расстралялі начальніка Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР П. Пасюкевіча.

Такое становішча прывяло да вострага дэфіцыту кадраў. На працягу года са жніўня 1937 г. тэатрам оперы і балета кіраваў прысланы з Масквы партпрызначэнец Ф. Ярыкаў (яго намеснікам быў колішні дырэктар мінскай фабрыкі-кухні Нагорскі), які фактычна развaліў работу тэатра. (Белкін В., Есакоў А. Злачыныя справы ў тэатры оперы і балета. "ЛіМ". 1937. 22 лістапада.) У другой палове 1930-х Галоўрэперткам не паспяваў здымаць з рэпертуару тэатраў творы арыштаваных драматургаў. Тады падключаўся НКУС і нават грамадскасць. У 1937 г. палітычна і мастацка шкоднымі былі абвешчаны ўсе спектаклі мастацкага кіраўніка БДТ-1 Л. Літвінава. Тады ж спектакль ТЮГа "Хлопчык-невідзімка" быў зняты з рэпертуару фактычна гомельскімі настаўнікамі, якія забаранілі сваім вучням глядзець палітычна шкодны твор. (Цімскі В., Львовіч М. За бальшэвіцкі стыль у кіраўніцтве. "ЛіМ". 1937. 6 мая.)

У сакавіку 1939 г. спецыяльная брыгада, накіраваная з Масквы, праводзіла праверку працы ўстаноў, якія ўваходзілі ў структуру Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. Вынікі праверкі былі абагульненыя ў дакладной пад назвай "Аб стане працы па мастацтву ў Беларускай ССР", накіраванай тады ж у Камітэт па справах мастацтваў пры СНК СССР. У ёй, у прыватнасці, адзначалася, што "нягледзячы на… надзвычай складаныя ўмовы для свайго існавання (мелася на ўвазе шкодніцкая дзейнасць ворагаў народа. — **А. Г.**) беларускае мастацтва знаходзіцца на ўздыме".



На той час у БССР працавала дзевяць прафесійных стацыянарных тэатраў (беларускія драматычныя — у Мінску, Віцебску, Мазыры, яўрэйскі тэатр у Мінску, рускі — у Магілёве, оперны тэатр, тэатр музкамедыі, тэатр юнага гледача, тэатр лялек у Мінску) і шэсць калгасна-саўгасных тэатраў у Барысаве, Полацку, Рагачове, Бабруйску, Лепелі, Слуцку. Характарызуючы беларускую драматургію, аўтары дакладной адзначалі яе народнасць, значнасць тэм і патрыятычную накіраванасць. У той жа час п'есы тагачасных беларускіх драматургаў вызначаліся як рыхлыя, прымітыўныя і плакатныя. Вобразы ў іх паўтараліся з п'есы ў п'есу. Рэжысёр віцебскага беларускага драматычнага тэатра "асучасніў" п'есу М. Горкага "На дне" да таго, што "Ніл выглядае тыповым камсамольцам". У рэпертуарных планах тэатраў не хапала п'ес савецкіх аўтараў. Так, у тэатры юнага гледача з дзесяці пастаўленых п'ес толькі адна была прысвечана тэматыцы сучаснасці. У палескім тэатры ў Мазыры не ставілася ніводнай п'есы на сучасную тэматыку. Абаронная тэматыка ў рэпертуары большасці тэатраў БССР не закранаілася наогул. Указвалася ў дакладной і на дрэнную арганізацыю палітычнага выхавання беларускіх акцёраў. "У Беларускім тэатры (Мінск)… склад вельмі засмечаны. Большасць акцёраў звязана з замежжам. Актрыса Ржэцкая была звязана з Галадзедам і Чарвяковым, дачка папа, бацькі ў Польшчы… Вельберг — эстонка, Кагайн — латыш, Радзяłоўская — полька, Грыгоніс — былы сябра Польскай вайсковай арганізацыі. Частка акцёраў служыла ў белых". Моцна "засмечаны ворагамі народа" быў тэатр юнага гледача. З гэтага аўтары дакумента рабілі выснову пра неабходнасць узмацніць тэатральныя трупы кадрамі з рабочай самадзейнасці.

Арганізацыя ў 1937 годзе Дзяржаўнай філармоніі БССР дала магчымасць стварэння пры ёй сімфанічнага аркестра, ансамбля песні і танца, ансамбля народных інструментаў і дзяржаўнага хору. Найважнейшым недахопам у працы філармоніі, на думку членаў брыгады правяраючых, была яе адарванасць ад музычнай грамадскасці рэспублікі. Пераходзячы да канкрэтнага музычнага матэрыялу, яны крытыкавалі оперу Я. Цікоцкага "Міхась Падгорны" за "…адсутнасць палітычнай і мастацкай завостранасці… брыгада лічыць, што ў фінале оперы нельга абмежавацца толькі тэмай раздзела зямлі, як выніка Кастрычніцкай рэвалюцыі. У папярэдніх карцінах оперы даволі яскрава намаляваны паражэнчыя настроі салдацкай масы, якая не жадае ваяваць з немцамі для спасення царскай Расіі. Аднак, гэтым настроям не супрацьстаіць ідэя барацьбы з немцамі-інтэрвентамі ў фінале оперы, падзеі трэба было б давесці да 1918 г.". Таксама рэкамендавалася перапрацаваць свае оперы і балет кампазітарам А. Туранкову ("Купальская ноч"), М. Шчаглову ("Кацярына Жарнасек") і М. Крошнеру ("Салавей").

Нездавальняюча ацаніла маскоўская брыгада работу апарата Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. Сярод іншых арганізацыйных недахопаў адзначалася, што ў 1939 г. там працаваў толькі адзін беларус.

Цэнзурная практыка ў галіне відовішчных жанраў мела ярка акрэсленую палітычную накіраванасць і характарызавалася некампетэнтнасцю, суб'ектыўнасцю як на кіраўнічым, так і нізавым узроўнях. Людзі, якія мелі слабое ўяўленне пра нацыянальную і сусветную мастацкую культуру, у дыдактычнай манеры выносілі вердыкты адносна патрэбнасці альбо непатрэбнасці яе твораў. Палітычная залежнасць і прафесійная некампетэнтнасць цэнзараў Галоўрэперткама прыводзіла да супрацьлеглых рашэнняў, а таксама да падмены аб'ектыўных крытэрыяў палітычнай мэтазгоднасцю і асабістымі прыхільнасцямі. Да канца азначанага перыяду сфарміравалася такая з'ява, як дзяржзаказ на "выраб" твораў пэўнай тэматыкі — ад асушэння балот да сацыяльнага вызвалення жанчын.

***На здымках: заслужаны артыст БССР, адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага тэатра Уладзімір Крыловіч (1895 — 1937); на першым плане — выдатны тэатральны дзеяч Беларусі, акцёр, рэжысёр Фларыян Ждановіч (1884 — 1937) з калегамі па мастацтве.***

*Фота з архіва рэдакцыі "ЛіМа".*

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара і Віктара Кавалёва

*Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, знаны жывапісец і педагог, удзельнік Вялікай Айчыннай Барыс Аракчэеў малюе вобразы мінулай вайны, увасабляе батальныя падзеі 1812 года, захапляецца хараством краявідаў і нацюрмортаў, піша партрэты сучаснікаў і гістарычных асоб.*



# Восемдзесят пятая вясна

**Яму было толькі пятнаццаць, калі пачалася вайна. Таму патрапіць добраахвотнікам на фронт Барысу Аракчэеву, хлапчуку з вёскі Турбанава, што на Яраслаўшчыне, не давялося. Затое працуючы ў калгасе, ён, учарашні сямікласнік, змог падмяняць дарослых мужчын, якія пайшлі на фронт. А праз два гады, у 1943-м, Барыса Аракчэева ўсё ж узялі ў Чырвоную Армію, у вучэбны батальён. Праслужыў у войску да 1950 года і тады ж паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. Далекавата ад роднага Паволжа? Але яшчэ ў 1944 годзе ваенны лёс прывёў маладога вайскоўца ў Беларусь, і гэтая акалічнасць вызначыла ўвесь яго далейшы шлях.**

"Я расстаўся з волжскім краем, але тут, у Беларусі, набыў усё: атрымаў мастацкую адукацыю, сустрэў сваю адзіную сяброўку, спадарожніцу жыцця, — распавядае Барыс Уладзіміравіч. — Тут мае вучні. Тут і дзеці мае атрымалі творчую прафесію (мастацкую дынастыю Аракчэевых працягваюць тры дачкі, чатыры ўнукі. — **С. Б.**). Але повязь з роднай зямлёй адчуваю ўсё жыццё, і гэтая духоўная лучнасць набыла для мяне асаблівы сэнс, калі я адкрыў для сябе паэтычны свет Максіма Багдановіча, непаўторнасць яго асобы. Не было б гэтага сапраўднага гіганта духу — не было б і многіх маіх твораў".

Так, своеадметнасць паволжскай зямлі, невытлумачальнае хараство старажытнага Яраслаўля паядналі мастака Барыса Аракчэева з нашым вялікім паэтам Максімам Багдановічам. Гадоў 30 таму мастак засяродзіўся на маштабнай працы, вынік якой уражвае і сёння.

"Я ўдзячны жонцы, якая дала мне магчымасць вольна і мэтанакіравана папрацаваць, паехаць на пару месяцаў у мясціны свайго дзяцінства і ранняга юнацтва, наведацца ў Яраслаўль, пахадзіць там, вобразна кажучы, ужо і сцежкамі Максіма Багдановіча, — успамінае Барыс Аракчэеў. — Пісаць серыю задуманых палотнаў пачаў са знакамітага помніка рускай архітэктуры. Гэта — Яраслаўскі крэмль, гістарычная цвярдыня. А яшчэ Яраслаўль — гэта Волга, легендарная рака, калыска вялікай Перамогі. Месцічы стваралі самыя спрыяльныя ўмовы для маёй працы. Я нават атрымаў дазвол пісаць з цеплахода "Сяргей Ясенін", які ўжо стаяў на прыколе, — з яго збіраліся рабіць гасцініцу. Працуючы, заўважыў незвычайную і захаплялную прыгожую гульню хваляў, і яшчэ больш уразіла мяне тое, што дакладнае вобразнае апісанне такога эфекту я знайшоў менавіта ў Максіма Багдановіча: маўляў, вада — як бляшкі на кальчугах!.. Я неадноймы заходзіў у сам крэмль, дзе калісьці захоўваўся спісак з летапісната "Слова пра паход Ігаравы": Максім Багдановіч меў намер зрабіць яго пераклад... У 1980 годзе пісаў Яраслаўскую гімназію, у якой вучыўся будучы паэт, — у 1984-м там паставілі яму помнік. А вось будынак Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэя давялося рэканструяваць на палатне паводле архіўных дакументаў, бо ён быў зруйнаваны".

Адметныя мясціны яраслаўскага Паволжа, легендарны Волкаўскі тэатр, дамок у слаўным рускім горадзе, дзе жыла сям'я Багдановічаў, маляўнічыя ваколіцы і знакавыя помнікі дойлідства — усё гэта мы пабачылі на персанальнай выстаўцы Барыса Аракчэева "Мая Яраслаўія", якая два гады таму ладзілася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Барыс Уладзіміравіч актыўна ўдзельнічаў у праектах, прысвечаных 65-годдзю вызвалення Беларусі ад гітлераўскай навалы і Вялікай Перамозе ў мінулай вайне, у маштабным леташнім рэспубліканскім фестывалі выяўленчага мастацтва "Зямля пад белымі крыламі". А сёлета да 85-годдзя майстра ў краіне было арганізавана некалькі выставак, якімі апекавалася яго дачка Аксана — цікавая і вядомая мастачка, пабывала на ўсесаюзнай выстаўцы ў Маскве, атрымала ўхвальныя водгукі спецыялістаў і даўно ўжо знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Экспанаваліся малюнкі і работы па чарчэнні, выкананыя падчас заняткаў у Мінскім мастацкім вучылішчы; эцюды з пленэраў, эскізы кампазіцый часоў студэнцтва; маштабныя тэматычныя карціны, многія з якіх захоўваюцца ў розных музеях і фондах, а таксама "прэм'еры" палотнаў, што ўпершыню пакінулі сцены мастацкай майстэрні.

Выстаўка "Пад знакам Авена", што ладзілася пры канцы сакавіка ў Мастацкай галерэі Баранавіч, мела пэўны падтэкст: пад гэтым знакам задыяка нарадзіліся і сам Барыс Уладзіміравіч, і яго дачка Аксана. Таму і экспазіцыя атрымалася сумесная. А свой восемдзесят пяты юбілей Барыс Аракчэеў адзначыў персанальнай выстаўкай, якая адкрылася ў дзень яго нараджэння — 19 красавіка ў сталічнай галерэі "ЛаСандр-Арт". Экспазіцыя "Каўказскі загар" прадставіла новыя (і ў чымсьці нечаканыя!) работы нястомнага, улюбёнага ў жыццё творцы.



педагог, куратар творчых праектаў дынастыі Аракчэевых.

Год пачаўся "Фарбамі Белай Русі" — сумесным вернісажам Барыса Аракчэева ды яго дачок Алёны і Аксаны ў памяшканні Міністэрства замежных спраў Беларусі. Амаль адначасова разгарнулася рэтраспектыва твораў Барыса ў сталічным Палацы мастацтва, дзе яскрава былі прадстаўлены далёка не простыя творчы шлях натхнёнага і працавітага жывапісца. Пад назвай "Этапы вялікага шляху" экспанавалася і яго адначасова дыпломная работа, якую выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Барыс Аракчэеў абараніў на "выдатна", якая

*На здымках: Барыс Аракчэеў поруч з маладзейшымі калегамі Сержуком Цімохавым і Уладзімірам Савічам; жывапіснае палатно мастака-ветэрана "Над Буйніцкім полем мірнае неба" (2000).*

# Жыццё — тыя дні, што ты памятаеш

**На пачатку другога дзесяцігоддзя XXI стагоддзя, а менавіта 22 красавіка, вядомы беларускі пісьменнік, удзельнік вайны, ганаровы грамадзянін горада Жлобіна Уладзімір Канстанцінавіч Федасеенка, узнагароджаны ордэнамі і медалямі, сустрэў свае 85 гадоў.**



Валянцін БАРЫСЕВІЧ

Уладзімір Федасеенка не шкадуе ні аб адным дні сваёй ваеннай маладосці. Ён быў і застаецца самым звычайным салдатам шматмільённай арміі сваіх суайчыннікаў. Пасля вайны радуецца адваяванаму багаццю — цішыні. Але застаецца там — на Жлобіншчыне — назаўсёды, у акупіраванай немцамі вёсцы Мормаль, у партызанскіх бліндажах, у складзе дыверсійнай групы, у незваротным мінулым — праз свае творы. Бо для салдат і партызанаў вайна не заканчваецца нават пасля перамогі. Асаблівая для пісьменнікаў.

Для Уладзіміра Канстанцінавіча Вялікая Айчынная вайна — гэта яго юнацтва, яго цяжкі час, яго сумленне. Дарэчы, як і многія героі яго твораў, пісьменнік не бачыць сябе ў ролі прапаведніка, але і сёння вельмі цэніць у чалавеку людскасць. "На вялікі жаль, — кажа Уладзімір Канстанцінавіч, — гэта якасць паступова становіцца рэдкай з'явай. Я не кажу пра першародную прыгажосць — дабрыню, мужнасць, добразычлівасць, якія былі сімвалічным адлюстраваннем жыцця многіх нашых пакаленняў, у тым ліку ваеннага і пасляваеннага. Я толькі пра тое, што неабходна захоўваць у жыцці штогадзінна, штодзённа — пра добрапрыстойнасць. Гэта значыць умець быць стрыманым, умець слухаць суразмоўцу, валодаць сабой, не спазніцца дапамагчы ў чужой бядзе, умець быць удзячным. Так, кожны павінен быць удзячным бацьку, маці, настаўнікам, суседзям, сябрам, пісьменнікам, ветэранам вайны і ўсім тым, хто па-добраму, без прымусу меў дачыненне да твайго лёсу".

Між іншым, духоўнае, унутранае ўзмужанне Валодзі Байкача, якое адбывалася на старонках раманаў У. Федасеенкі "Дубовая Града" і "Віхры на скрыжаваннях", загартоўка яго патрыятызму ў самых складаных сюжэтных перыпетыях сведчыць пра сацыяльна-грамадскую накіраванасць гэтых і іншых твораў пісьменніка. Як і ў раманах Івана Мележа, Івана Шамякіна, дзе ідэалам быў чалавек, які валодаў духоўнай сілай, што стварае дабро і прыгажосць, у творах Уладзіміра Федасеенкі праз прызму характараў галоўных персанажаў тонка перадаецца сацыяльная і бытавая повязь тагачаснага грамадства.

У раманах "Пасля смерчу" (1975), "Мутныя росы" (1999), напісаных на матэрыяле ваенных і першых пасляваенных гадоў, празаік па-мастацку красамоўна і трапна перадае віхуры страсцей, якія разгортваюцца і кіпяць у змаганні дабра са злом, харастві з убоствам, справядлівасці з несправядлівасцю. Старонку за старонкай ён паступова праклaдвае ў рамках раманаў тыя масткі, што злучаюць берагі нядаўняга мінулага, звязанага выродлівай калектывізацыяй (калі стараннямі сістэмы бяздушна парушаўся закон) і ваенным ліхалеццем, — з днём сённяшнім.

Усім добра вядома, што кніга — гэта збор многіх персанажаў рознага ўзросту, паводзін, характараў. Аднак пісьменнік, з маленства ўлюбёны ў прыроду роднага краю, не забывае напоўніць змест рамана і каларытнымі фарбамі мясцін, дзе адбываюцца тыя ці іншыя падзеі. Рэальныя, а не ўяўныя карціны прыроды, поўныя паэтычнай узнёсласці, прысутнічаюць ва ўсіх творах мастака слова, на працягу ўсяго жыццёвага шляху яго герояў — ад станцыі Мормаль, вёсачак Дубовая Града, Восава Буда, у якой жыла некалі ягоная сям'я, дзе будучы пісьменнік вучыўся ў пачатковай, а пасля сярэдняй школах, да Новай Кармы — вёсачкі, дзе яго бацька Канстанцін Васільевіч пасля вайны будаваў новы дом (хата ў Дубовай Градзе была знішчана паліцаямі).

Тыя, цяпер ужо далёкія гады маленства і юнацтва, праведзеныя празаікам у маляўнічых кутках Жлобіншчыны, знойдуць сваё адлюстраванне ў яго творах. "Жніўеньская раса густа прыпала на колападобныя сеткі — лакатары павучкоў. Гэтыя сеткі былі размешчаны паміж кусточкаў конскага шчаўя і палыну, віселі на тоненькіх, нібы алюмініевых, правадках. Павучок яшчэ не выйшаў на цэнтр свайго лакатара бліжэй да парушальнікаў, бо ведае, што ў такую мокрую рань яны не лётаюць. А сядзіць пад лісточкам шчаўя, скруціўшы ножкі на грудзях, прыціснуўшы да правадка, каб ні на хвіліну не страціць сувязь з асноўным лакатарам".

Разам з тым, Уладзімір Федасеенка прытрымліваецца ў сваёй творчасці лепшых традыцый літаратурнага рамантызму. Адным словам, беларускі празаік імкнецца сярод бясхітрасных людскіх паводзін адшукаць шчырасць і дабрыню — самыя адметныя рысы характару ў добразычлівых адносінах.

Адзін з герояў рамана Уладзіміра Федасеенкі "Мутныя росы" трапна сказаў: "Жыццё — не тыя дні, што прайшлі, а тыя, што ты памятаеш". Думаецца, што гэтыя шчырыя словы спаўна адлюстроўваюць жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны.

# Я вырас пад гарматнымі ствaламі

Кацярына ВАРАНЬКО

**Выдатным і самабытным майстрам беларускай паэзіі XX ст. быў Сцяпан Захаравіч Гаўрусёў, які належаў да плеяды беларускіх "шасцідзясятнікаў". 10 мая яму споўнілася б 80 гадоў.**

Нарадзіўся будучы паэт у вёсцы Новааляксандраўка Дрыбінскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Сцяпан Гаўрусёў адносіўся да таго пакалення, чыё дзяцінства прыпала на ваенны час, таму вучыцца яму давялося з перапынкамі. У 1951 г. скончыў Магілёўскае педагагічнае вучылішча. Пасля была служба ў арміі, завочная вучоба ў Мінскім педвучылішчы, праца літсупрацоўнікам рэспубліканскай газеты "Звязда", рэдактарам выдавецтва "Беларусь".

З вершамі ў друку пачаў выступаць з 1948 г. Першая кніга паэзіі "Паходныя кастры" ўбачыла свет у 1955 г. Адзін за адным выходзяць з друку зборнікі вершаў "На грэбнях хваль" (1959), "Шчодрасць" (1962), "Ураган" (1966), "Профіль веку" (1969), "Кляновыя лісты" (1971), "Перакліччка" (1973), "Клопат" (1976). Галоўнае, што вызначае творчасць С. Гаўрусёва, — гэта выдатнае паэтычнае майстэрства. Кожны яго зборнік надзвычай цэласны па змесце, паслядоўнасці аўтарскіх думак. Вершы паэта прысвечаны не толькі Вялікай Айчыннай вайне, але і працоўным будням, прыгажосці роднага краю, красе чалавека. Ёсць у С. Гаўрусёва верш "Я вырас пад гарматнымі ствaламі". Ён не толькі пра самога паэта, яго дзяцінства, апаленае шалёным полымем вайны, але і пра цэлае пакаленне, у якога "губы пахлі дымам, бо мы з снарадных конавак пілі". Гэты верш стаў лейтматывам, галоўнай тэмай творчасці С. Гаўрусёва. Падзеі мінулага — своеасаблівая скарбонка, адкуль ён чэрпаў свае паэтычныя матывы, вобразы.

Пазней выйшлі яшчэ зборнікі вершаў "Водсветы" (1978), "Азарэнне" (1980), "Крона" (выбранае, 1981). У іх аўтар гаворыць пра адказнасць чалавека перад будучыняй, пра страшныя дні вайны, родную зямлю Магілёўшчыну, зе мінулае і сучаснае, непаўторную прыгажосць яе прастораў, зямлі — такой шчодрай і багатай на таленты. Глыбокая лірычная шчырасць уласціва паэмам С. Гаўрусёва "Іней", "Штодзённы лістапад". У паэме "Іней" паэт паказаў сябе сапраўдным майстрам пейзажа. Яму ўдалася замалёўкі марозных зімовых дзён і вечароў у вёсцы:

*Мароз пахруствае крамяны,*
*Рыпіць пад ботам сыпкі снег,*
*І месяц коціцца румяны*
*Па-над пуховай гладдзю стрэх.*

Творчасць паэта вылучаецца высокім прафесійным майстэрствам. У 1987 г. яго кніга "Пладаносн асць" (1986) была адзначана Літаратурнай прэміяй Саюза пісьменнікаў БССР імя А. Куляшова.

Шмат увагі аддаваў С. Гаўрусёў і мастацкаму перакладу. На беларускую мову ім перакладзена паэма "Ануш" А. Туманяна, "Маабіцкі сшытак" М. Джаліля (з А. Пысіным), паасобныя творы А. Твардоўскага, М. Святлова, Я. Райніса, К. Куліева, Э. Межэлайціса і інш. Гэтая дзейнасць стала для яго важным сродкам пранікнення ў мастацкі свет іншых майстроў слова, і таму ў агучаных па-беларуску творах ён не толькі жыва ўзнаўляў змястоўны бок і вобразнасць таго ці іншага тэксту, але і перадаваў індывідуальна-непаўторны пульс радка, яго духоўную глыбіню.

Выступаў пісьменнік у друку з крытычнымі артыкуламі, рэцэнзіямі, нарысамі. У сваіх працах паказаў, што ўмее цаніць зробленае ў літаратуры яго папярэднікамі. Сцяпан Гаўрусёў тонка адчуваў паэтычны радок, яго прыгажосць, водар, гучанне. Пішучы пра А. Куляшова, П. Панчанку, А. Грачанікава, П. Макаля, В. Зуёнка, дакладна выяўляў творчую манеру, індывідуальнае аблічча мастакоў слова, пры гэтым вылучаў і паказваў мастацкія якасці многіх іх твораў.

Пра прызнанне творчай спадчыны С. Гаўрусёва сведчыць выданне яго вершаў на 13 мовах свету, у тым ліку на англійскай і французскай. У перакладах на рускую мову паэзія майстра неаднойчы выходзіла асобнымі кнігамі.

# Метэор Яна Збажыны

Алесь БАКАЧ

**У нябёсах беларускай паэзіі згарэў яшчэ адзін метэор — Ян Збажына. Ён быў з сузор'я тых адзначаных талентам, разняволеных у лёсе і творчасці асоб, што жывуць, не шкадуючы сябе, менш як палову дадзенага Богам веку. Але таму й дасягае нашых душ святло іх імклівага палёту.**



Некалі Ян Збажына казаў: "Добра, калі хоць два-тры вершы пасля любога з паэтаў будуць жыць у народнай памяці і патрапяць у скарбонку нацыянальнай літаратуры. Астатняе знікае, нібы напісанае па вадзе".

Падобна на тое, што ў Яна Збажыны гэткімі творамі стануць вершы "Хмары", "Сахіры", "Снег" ды чародка афарызмаў. У свой час іх адразу заўважылі: згаданыя вершы друкаваў часопіс "Полымя" (№ 8, 1997 г.), а выбраныя афарызмы — газета "Літаратура і мастацтва" (26.07.1996 г.)

Ян Збажына (Іван Мікалаевіч Савіцкі) нарадзіўся 31 сакавіка 1964 года ў Баранавічах. У 1993 годзе завочна скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Выкладаў гісторыю і сацыяльна-палітычныя дысцыпліны ў школах і ВНУ роднага горада, працаваў сацыяльным педагогам і журналістам.

Як даўні сябар Яна Збажыны, мяркую, што дзеля гісторыі і праўды маю права сказаць пра тое, што яго асабісты лёс "не склаўся" праз схільнасць да "славянскага хобі". З гэтай прычыны пайшлі нелады ў асабістым жыцці, потым падкралася цяжкая хвароба падстраўнікавай залозы. А 10 лютага 2011 года ў Брэсцкай абласной бальніцы знясіленага і змізарнелага пасля аперацыі Яна Збажыны не стала.

У 2004 годзе, нібы заўчаснае падсумаванне жыцця Яна Збажыны, выйшла яго адзіная, але надта арыгінальная зместам і аздабленнем кніга паэзіі і прозы "Пыл саркафагаў". Яна распачынаецца двума цыкламі афарызмаў: "Гербарый" і "Начныя матылі". Чытачу, які мае хаця б пачатковую "філасофскую падрыхтоўку", ладная частка гэтых афарызмаў прыйдзецца даспадобы. І тут жа, побач, як кантраст ім, тыя выслоўі, што "зашкальваюць" за нормы маралі паказной сексуальнасцю і пагардаю да жанчын. Як жарт і выклік, кінуты нашчадкам, гучаць словы аднаго з афарызмаў: "Ганарыся тым, што ствараеш мараль для тых, хто дакарае цябе ў амаральнасці".

На самой справе Ян Збажына напісаў усяго каля чатырох дзясяткаў рыфмаваных вершаў, большасць з якіх і надрукавана ў кнізе. Пошук навізны і разнастайнасці ў вершатворчасці, разам з наўрымслівасцю яго натуры прывялі да стварэння надрукаваных у "саркафагах" нізак хоку, танка, версэтаў. Не спыняючыся на гэтым, Ян Збажына прысвячае ў кнізе эсэ Адаму Міцкевічу, Янку Купалу, Уладзіміру Высоцкаму, а таксама піша рэфлексіі пра Фрыдрыха Ніцшэ. Назапашаны літаратурна-філасофскі патэнцыял пераўвасабляе ў падобныя на прыпавесці-роздумы "Меч гладыятара" і "Піраміду Хеопса". Далей Ян Збажына спрабуе сябе ў жанры кароценькіх жартоўных апавяданняў — "Лялька Нона" і "З дзённіка падшыванца". Відавочна, што акурат перад выданнем кнігі асабістае жыццё аўтара зазнала крах, бо завяршае зборнік цынічна-насмешлівая празаічная рэч пра шыбенікаў "Дагойдаліся".

Акрамя згаданых падборак твораў у "ЛіМе" і "Полымі" Ян Збажына засведчыў сваю прысутнасць у беларускай літаратурнай прасторы з'яўленнем у часопісах "Бярозка" (№ 9, 1993 г.; № 3, 1995 г.; № 11, 1996 г.), "Першацвет" (№ 11, 1994 г.), "Маладосць" (№ 5, 1996 г.), "Радавод" (№ 4, 1998 г.), "Абажур" (№ 3 — 4, 2001 г.), "Дзеяслоў" (№ 5, 2006 г.) У 1998 г. яго верш "Сахіры" увайшоў у кнігу выбранай беларускай паэзіі "Аглядзіны". Творы Яна Збажыны друкавалі літаратурны альманах горада Баранавічы "Святліца" і альманах літаратараў Берасцейшчыны "Жырандоля", а яшчэ раней — газета "Культура". Як і кожны тутэйшы літаратар, ён быў "сваім" у гарадскіх газетах. Вядомы паэт Алесь Каско прысвяціў творчасці Яна Збажыны ухвальны артыкул "Самакаштоўнасць характва", які быў змешчаны разам з яго вершамі у абласной газеце "Заря" 12 снежня 1996 года.

У сухіх і сціслых радках лічбаў і фактаў цяжка знайсці месца для Душы дарагога мне сябра. У маладосці гэта быў жыццялюб і гумарыст, само жыццё якога, поўнае прыгодніцкіх гісторый, было нібыта працягам яго творчасці. Але найперш ён вылучаўся шчырай любоўю да Бацькаўшчыны, яе гісторыі і літаратуры. Кнігі па філасофіі Ян чытаў з гэткім жа захапленнем, як жанчыны любоўныя раманы ці мужчыны розныя "забойныя" дэтэктывы.

Мы пазнаёміліся (і адразу ж пасябравалі) у 1990 годзе, у сярэдняй школе № 6 горада Баранавічы, дзе я працаваў інструктарам па плаванні ў басейне, а Ян быў кіраўніком выхаваўча-падлеткавага клуба "Усходкі" і выкладаў гісторыю. Ужо ў той час ён імкнуўся заўсёды і з усімі размаўляць толькі па-беларуску. У справе беларушчыны і літаратуры ён надаў мне неацэнны імпульс да развіцця. Разам мы займаліся са скаўтамі, з 1991 года пачалі складаць вершы і, як сведчанне нακанаванасці нашай дружбы, бывала, нават друкаваліся ў адных нумарах газет і часопісаў.

Ян Збажына валодаў надзвычайнай прыцягальнасцю, добра ладзіў з вучнямі, быў эпатажным і мог смешна распавесці пра свае прыгоды. Да яго асобы і творчасці заўсёды цягнуліся літаратары-пачаткоўцы.

Ян Збажына сабраў, мо найлепшую ў горадзе, прыватную гуманітарную бібліятэку. Але яго эрудыцыя стала таксама і прычынай эгаізму, настрою "марнасць марнасці" і цынізму, апявання смерці. Ён згубіў Хрыста ў натоўпе Шапенгаўэра, Шпенглера, Ніцшэ, Фрэйда, Гайдэгера ды ім падобных.

За яго літаратурный бравадай хаваецца безабароннасць Душы перад Светам.

Але такім мы яго і любілі. Гэта і ёсць праўда зіхотнага, як метэор, жыцця і таленту Яна Збажыны. А інакш навошта патрэбна літаратура, калі яна перастае быць майстэрняй чалавечых душ?



# Таленавітая і валявая

Пайшла з жыцця Валянціна Міхайлаўна Коўтун. Заўчасна. Нечакана. Толькі-толькі адсвяткаваўшы свой 65-гадовы юбілей. Пайшла ў росквіце творчых сіл, поўная задум і планаў. Не скончыўшы падрыхтоўку рукапісу кнігі ў выдавецтва "Кнігазбор", не скончыўшы новага рамана. Згасла раптоўна, нібыта знічка ў небе.

Свой шлях у вялікую літаратуру Валянціна Коўтун пачынала з вершаў. Яна была таленавітай паэткай, таленавітай ад прыроды, ад зямлі Палескай. Пісала на дзіва глыбокія вершы, глыбокія ў сэнсе іх складанай метафарычнасці.

Першы паэтычны зборнік "Каляровыя вёсны" выйшаў у 1971 годзе. Пасля былі іншыя: "На ўзлёце дня" (1977), "На зломе маланкі" (1981), "Метраном" (1985). За апошнюю кнігу В. Коўтун у 1986 годзе атрымала літаратурную прэмію імя А. Куляшова.

Аднак з цягам часу В. Коўтун стала цесна ў рамках вершаванага слова. Ёй хацелася ўжо іншага фармату ў адлюстраванні жыцця, іншага маштабу думкі, іншых мастацкіх вобразаў, выяўленчых сродкаў. Будучы па натуры вельмі моцнай і валявой, Валянціна Міхайлаўна і герояў для творчасці выбірала такіх жа. Яшчэ ў студэнцкія гады яе вабілі да сябе лёс і творчасць Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Цёткі былі прысвечаны шматлікія вершы, а пасля і паэма "Суд Алаізы". Цяпер ёй карцела напісаць раман пра гэтую слынную дзяячку канца XIX — пачатку XX стст. Рамана "Крыж міласэрнасці" (першая кніга выйшла ў 1988 годзе, другая — у 1996-м) Валянціна Міхайлаўна аддала амаль пятнаццаць гадоў свайго жыцця, яна стварыла **сваю** Цётку, адлюстравала гэты вобраз па-новаму, нетрадыцыйна — найперш раскрыла трагічную сутнасць паэткі-рэвалюцыянеркі. І гэта быў па тым часе досыць смелы ўчынак з яе боку.

Этапным у творчасці В. Коўтун можна назваць і яе раман "Паклікан ыя" (1998 — 2002). Пісьменніца ўклала ў вобраз Еўфрасінні Полацкай ўвесь свой талент, усю сябе, сваю душу, свой боль, свае пакуты, сваю заклапочанасць будучыняй людзей, усяго свету.

Зямны шлях Валянціны Міхайлаўны абарваўся на яе малой радзіме — на Піншчыне, у бацькоўскай хаце. Сюды яна прыехала, як звычайна, на кароткі тэрмін, каб утрэсці сякія-такія гаспадарчыя справы. А атрымалася, што — назаўжды! Пэўна, не выпадкова, што яе апошняе тэлефанаванне і апошнія словы былі звернуты да мяне. Яна прасіла ратавання. Не выратавалі! Не змаглі, хоць і вельмі стараліся. Не паспелі! Не ўсцерагалі! Прабачце нас за гэта, шаноўная Валянціна Міхайлаўна.

Хай высокае неба прыме і сагрэе Вашу наўрымслівую душу!

Хай пухам Вам будзе зямля!

**Валянціна ЛОКУН**

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніцы, былой супрацоўніцы часопісаў "Полымя" і "Маладосць" Валянціны Міхайлаўны КОЎТУН і выказвае шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

# На шляху да Першаасновы



Алесь СУХАДОЛАЎ,
фота аўтара.

**Планетарый у парку Горкага, Інстытут тэалогіі БДУ, а цяпер яшчэ і Чырвоны касцёл — у гэткіх незвычайных месцах праходзілі летась выстаўкі жывапісу Віктара Васюкевіча. Калі спытаць у аўтара, ці думаў ён раней пра такі выставачны "маршрут", ён адкажа, што сам уласна не планаваў ніводнага з гэтых крокаў. І сапраўды, здаецца, што мастака нібы накіроўвае сам Бог, ведучы адметным шляхам і ў жыцці, і ў творчасці.**

Вось што кажа на гэты конт В. Васюкевіч у адным са сваіх верлібраў (у вершах ён імкнецца даць своеасаблівае тэарэтычнае абгрунтаванне сваіх мастацкіх знаходак):

*Госпаду аддаў сэрца і жыццё,*
*Сказаўшы: "Будзь па-Твойму".*
*Ведаю, што кожны дзень*
*Я скуголіць буду,*
*Таму што жыць прывык*
*Так, як* ***я*** *хачу.*

Мастак лічыць, што на шляху духоўнага развіцця і творчага ўдасканалення чалавек мусіць адмовіцца ад свайго эгаістычнага "я" — але не дзеля растварэння ў агульнай масе, а для спаўнення тых планаў, што ўскладзены звыш на кожнага з нас.

В. Васюкевіч не так даўно прыйшоў да цяперашняга стылю сваіх работ — абстракцыі. Перад гэтым былі рознабаковыя творчыя пошукі і цяжкія жыццёвыя выпрабаванні. На прыкладзе яго апошніх выставак мне б хацелася паразважаць пра той шлях, па якім імкліва рухаецца пэндзаль аўтара.

Першая выстаўка, якую мы зладзілі сумеснымі намаганнямі (я выступіў як куратар), прайшла вясною 2009 года ў сталічнай галерэі "Вільнюс" і атрымала цалкам свецкую назву "Колерамузыка". Акрамя абстракцыі тут былі прадстаўлены іншыя напрамкі творчасці В. Васюкевіча: ранняя геаметрычныя кампазіцыі, пейзажныя эцюды, эксперыменты ў графіцы. Напрыканцы таго ж года — дарэчы, Міжнароднага года астраноміі — чарговая выстаўка адкрылася ў Мінскім планетарыі. Мэтай гэтага праекта было засяродзіць увагу на касмічным пачатку аўтарскай творчасці. Сам Віктар з дзяцінства захапляўся фантастыкай.

Праўда, астраноміяй, у адрозненне ад калегі Язэпа Драздовіча, усур'ёз не цікавіўся, але і неабазнаным вокам можна заўважыць падабенства ў гарманічнай структуры жывапісу Віктара з фотаздымкамі касмічных прастораў, атрыманымі з дапамогай тэлескопаў. На выстаўцы ў планетарыі мы імкнуліся адлюстраваць пэўную тоеснасць творчай інтуіцыі мастака і сучасных навуковых тэндэнцый. З'яўляючыся шчырым вернікам, В. Васюкевіч не імкнецца аспрэчваць палажэнняў тэарэтычнай фізікі і прыродазнаўства. На яго погляд, тая ж тэорыя Вялікага Выбуху — гэта "навуковы погляд на прыроду Бога". Навука не супярэчыць рэлігіі, яны разглядаюць адну з'яву з дапамогай розных інструментаў: розуму і сэрца. А мастацтва — гэта тая плоскасць, на якой гэтыя супрацьлеглыя скіраваныя вектары здольны перасячыся.

У творчасці В. Васюкевіча можна адшукаць спасылкі на сучасныя навуковыя тэорыі, якія, зразумела, зроблены несвядома. Напрыклад, тэорыю сімуляцыі, да якой нярэдка звяртаецца ў сваіх сюжэтах беларускі пісьменнік Юры Станкевіч. У Віктара ёсць цэлы цыкл карцін "Ілюзіі", які ён стала працягвае. У гэтых творах аўтар нібы імкнецца паўтарыць акт Боскага Тварэння, стварыць ілюзію ўласнага сусвету — бясконцага, вечнага, што дасягаецца за кошт цыклічнай кампазіцыі палотнаў (у постмадэрновым мастацтве, дарэчы, цыклічнасць



сюжэтаў з'яўляецца ці не адным з базавых прынцыпаў). Тым самым жывапісец намякае на ілюзорнасць рэчаіснасці (вядомы дагмат будызму), на яе штучны, уяўны, нематэрыяльны характар. Тэорыя сімуляцыі, выведзеная ў працах трансгуманістаў Ніка Бострама, Бары Дайнтана і інш., вылучае тэзіс, што чалавецтва на самай справе існуе ў віртуальнай прасторы, штучна змадэляванай рэчаіснасці, у аснове якой — інфармацыя. З гэтым сцвярджэннем перагукаецца карціна В. Васюкевіча, якая атрымала адпаведнае найменне "Матрыца" (прыгадаем вядомую кінастужку братоў Вачоўскі). Гэткім чынам мастак апантана змагаецца з матэрыялізмам як пануючым сярод мас светапоглядам.

Для ілюстрацыі абазначаных вышэй палажэнняў мне б хацелася звярнуцца да адной з апошніх работ аўтара пад назвай "Імгненне". Што гэта за імгненне? Імгненне даўжынёй у вечнасць? "Альфа і Амега, пачатак і канец?.." У гэтым творы перш за ўсё бачу адлюстраванне згаданай ужо тэорыі Вялікага Выбуху. Але ж гэта не спусташальны ядзерны "грыб", у аснове выявы — неверагодная гульня і ўзаемадзеянне колераў, гранічная экспрэсія і разам з тым даволі цёплая і пяшчотная палітра. Тут выяўлены агонь, які сагравае, а не апякае. Не пабаюся сказаць, што гэта адушаўлёная ілюстрацыя халоднай навуковай тэорыі. Гледзячы на гэту выяву, можна разважаць і пра сінгулярнасць (г. зн. узнікненне сусвету з бясконца малой велічыні), і пра пашырэнне сусвету (а таксама адваротны яму працэс сціскання), і пра навуковы крэацыянізм… А разам з тым — пра Усявышняга, Яго святло і любоў.

Наступная выстаўка В. Васюкевіча пад назвай "Святло" адчынілася ў Інстытуце тэалогіі БДУ з блаславення кіраўніцтва Беларускай Праваслаўнай Царквы. Дарэчы, у гэтай ВНУ выкладае айцец Аляксандр Шымбалёў, якому ягоны сан ніяк не перашкаджае прафесійна займацца астраноміяй. Пасля планетарыя нам з Віктарам здалося лагічным крокам перанесці сюды экспазіцыю. Дадзеная выстаўка паказала, што ў творчасці аўтара выразней пачала праяўляцца тэалагічная лінія. На карціне "У пачатку было Слова" мы не знойдзем якіх-кольвек графічных тэкстаў — у гэтым цалкам абстрактным творы жывапісец імкнецца візуалізаваць Першаснову, Божае Слова, усёстваральны і ўсёдаравальны пачатак. Слова-думка, што стварыла сусвет і змяшчае ў сабе яго цалкам. Але аўтар, хутчэй, перадае эмоцыю, сваё перажыванне гэтай з'явы, чым уласна ідэю. Ён выяўляе тое, чаго нельга выказаць словамі. У некаторых творах, нягледзячы на іх абстрактную прыроду, можна разгледзець рэлігійную сімволіку. Напрыклад, на карціне "Запавет" — самым буйнамаштабным на сёння творы В. Васюкевіча — адлюстравана вясёлка як сімвал Запавету паміж Нябёсамі і зямлёю, паміж Богам і чалавекам, таго Запавету, што быў з'яўлены людзям пасля сусветнага Патопу. Часта ў выявах жывапісца праступаюць абрысы крыжа як сімвала хрысціянства. Напрыклад, у рабоце "Альфа і Амега", якая дала назву яго апошняй выстаўцы. Тут, зноў жа, мастак не ўводзіць абрысы грэчаскіх літар, ён абыходзіцца ўніверсальнымі сімваламі: крыжа як пачатку і круга як канца. Гаворачы словамі аўтара, тут выяўлены "пачатак, што не мае пачатку, і канец, што не мае канца". Такі містыцызм светапогляду, глыбокі эзатэрычны змест уласцівы скрозь творчасці В. Васюкевіча. Напэўна, і сам аўтар не здольны канчаткова асэнсаваць створанае.

Выстаўка ў Чырвоным касцёле для мяне як куратара стала поўнай нечаканасцю. Некалі я выпадкова абмовіўся журналісту з радыё, што карціны В. Васюкевіча павінны быць выстаўлены там, дзе гучыць арган. Але я меў на ўвазе не канкрэтнае месца. І вось Віктар выпадкова знаёміцца з ксяндзом Уладзіславам Завальнюком; тое бачанне Боскага свету, што мастак дэманструе на сваіх палотнах, прыйшлося святару даспадобы, і выстаўка ў касцёле адчынілася літаральна праз дзень пасля агульнага знаёмства. Напярэдадні яе адкрыцця, падчас нядзельнай імшы ксёндз-пробашч з амбона зачытаў для прыхаджан падборку вершаў В. Васюкевіча. Па словах служкаў касцёла, гэта гаворыць пра тое, што творчасць мастака напраўду ўразіла ксяндза-пробашча і ён самым дастойным чынам выказаў сваю павагу да самаадданай веры гэтага чалавека. З выстаўленых тут работ акрамя ўжо згаданых з рэлігійнай тэматыкай непасрэдна зітаваны карціны "Хай Свяціцца Імя Тваё" і "Слова".

З культурнай антрапалогіі вядома, што ў многіх народаў на імёны боствў накладвалася пэўнае табу, а дзеля іх ушанавання выкарыстоўваліся адмысловыя эпітэты. З гэтым звязаны пошукі сапраўднага імені Бога ў містычных вучэннях накшталт кабалы. На карціне "Хай Свяціцца Імя Тваё" В. Васюкевіч зноў жа пазбягае якой-небудзь канкрэтыкі, сцвярджаючы абстрактную, безасабовую прыроду Боства, якое не можа мець пэўнага імені ці вобраза. Жоўта-блакітныя хвалі разыходзяцца ад цэнтра палатна па ўсёй яго плоскасці як бясконцасць магчымых святых імёнаў.

У рабоце "Слова" выяўлены магутны згустак энергіі, што выпраменьвае духоўнае святло, сягаючы далёка за межы выявы і імкнучыся пашырыцца на ўвесь сусвет. У аснове гэтага "згустка" аўтар змясціў абрысы Крыжа Гасподняга. Можна сказаць, што на гэтай карціне жывапісец стварыў абстрактную выяву Хрыста, якога яшчэ называюць Логасам, што і азначае Слова Божае. Евангелле вучыць, што Бог увасобіў сваё Слова ў вобразе Сына, тым самым падарыўшы людзям сваё Адкрыццё. Стварэнне партрэтных выяў Хрыста ці чалавекападобных вобразаў Бога В. Васюкевіч знаходзіць непрымальным для сваёй творчасці. Такое бачанне Боскай прыроды ён лічыць сведчаннем невысокага духоўнага ўзроўню, што блізка старазапаветнай і пратэстанцкай этыцы. Але мушу зазначыць, што наш вядомы суайчыннік Аляксандр Ісачоў імкнуўся ўкласці ў свае партрэты падобнае да творчасці В. Васюкевіча пасланне і энергетыку.

Сёння выстаўка В. Васюкевіча "Альфа і Амега" часткова пераехала ў галерэю "Vilnius", дзе яе можна пабачыць у чытальнай зале бібліятэкі № 18 (вул. Каліноўскага, 55). Невядома, якія далей крокі чакаюць В. Васюкевіча, дзе знойдуць прыстанак яго новыя экспазіцыі. Але мастак асабліва не засмучаецца на гэты конт, бо ведае, што знаходзіцца на правільным шляху — на шляху да Бога.

***На здымках: работы В. Васюкевіча "Імгненне" і "Слова".***



# Два мастакі, адна дарога

Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ

**Такую назву мае юбілейная выстаўка заслаўскіх мастакоў Надзеі і Валянціна Макаранкаў, што адкрылася ў сталічнай галерэі фальварка "Добрыя мыслі".**

На адкрыцці прысутнічалі сваякі творцаў, сябры і калегі па працы. Вядучыя імпрэзы, мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская і мастак Віктар Маркавец, далі творчую характарыстыку віноўнікам урачыстасці.

Прысутныя пераканаліся, што ў творчасці Надзеі Макаранкі асабліва ўражваюць дываны, у якіх адлюстравана гісторыя Заслаўя. Самы першы з іх пра старажытную частку горада, якая захавала сярэднявечныя рысы. Усе творы авеяны пачуццём рамантычнага захаплення і гонару за свой горад. Не менш адметныя яе работы, прысвечаныя Рагнедзе і народным святам. Мастачка з'яўляецца адным з заснавальнікаў, а з 2001 года — членам мясцовага творчага грамадскага аб'яднання "Мастак".

Работы Валянціна Макаранкі вызначаюцца лаканізмам выяўленчай формы, яскравай і пераканаўчай вобразнасцю, высокім прафесіяналізмам. Творчасць мастака захапляе адметным узроўнем культуры і эстэтычнай думкі, шырокай дасведчанасцю ў сферы этнічнай і гістарычнай сутнасці герояў яго работ. Дзіцячыя кнігі з яго маляўнічымі ілюстрацыямі выходзілі ў многіх дзяржаўных выдавецтвах, у тым ліку — у РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Свае цёплыя і шчырыя словы творцам сказалі паэт Уладзімір Мазго, мастакі Ліліяна Гудава, Таццяна Чацверніна, Уладзімір Жук і іншыя. Усе яны падкрэслілі той факт, што выстаўка выклікае яркія ўражанні і станоўчыя эмоцыі, пажадалі сямейнаму дуэту новых творчых поспехаў.

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара





# Вяртанне рамантычнага жыцця

**Выяўленчае мастацтва Францыі другой паловы XIX стагоддзя стала для ўсяго свету ўзорам наватарскага першапраходніцтва і незалежнай дэмакратычнай творчасці. Яго традыцыі жывуць і ў прафесійным беларускім мастацтве. Так, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, як зазначыў яе дырэктар Раман Матульскі, у самай высокай галерэі Мінска “Панарама” ладзілася выстаўка “Вяртанне да рамантызму” (“Le retour au romantisme”) — сумесны праект НББ і Пасольства Францыі ў нашай краіне пры падтрымцы дызайн-студыі Pix Media. Тут, на дваццаць другім паверсе, апошнім часам дэманструюцца толькі міжнародныя экспазіцыі.**

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Беларусі Мішэль Рэнеры падкрэсліў, што слова “рамантызм” у французскіх кнігах па гісторыі ў яго краіне азначае патрабаванне правоў асобы ў сферы творчасці. Маладыя рамантыкі, прадстаўнікі рамантызму ў мастацтве і літаратуры акрэслілі ідэі гуманізму. Прыкладам, паэт Ламарцін быў прыхільнікам рэспублікі і ўдзельнікам прэзідэнцкіх выбараў 1848 года, на якіх перамог Луі Напалеон Банапарт.

Са слоў куратара выстаўкі, кандыдата мастацтвазнаўства Яўгена Шунейкі, выяўленчае мастацтва Францыі другой паловы XIX стагоддзя падказвае шматлікія ідэі, якія актуальныя і сёння. Мэта экспазіцыі — паказаць работы нашых мастакоў, якія шчыра захапляюцца дасягненнямі лепшых прадстаўнікоў французскай школы. Яўген Феліксавіч адзначыў, што спадчына рамантызму, сімвалізму і імпрэсіянізму заклікае сучасных беларускіх мастакоў раскрыць тыя тэмы і сюжэты, якія падчас дынамічнай перамены мастацкіх кірункаў у асяродку французскіх першапраходцаў засталіся незаўважанымі, але могуць спрыяць далейшаму развіццю прафесійнага мастацтва. Удзельнікі выстаўкі пазбягаюць непасрэдных цытат са спадчыны вядомых творцаў, актуалізуючы ідэі і вобразы для сённяшняга гледача ў жывапісных, графічных, тэкстыльных работах.

Загадчык аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці НББ Фёдар Ястраб выказаў меркаванне, што вяртацца да рамантызму не трэба, мы павінны жыць з рамантычным настроем, каб яго частка была ў любой творчасці. Постмадэрнізм губляе аўтара, а рамантызм — гэта ўхваленне чалавека, асобы, ён раскрывае, узвышае аўтара твора.

Арт-менеджары праекта і вядучыя вечарыны Віка Трэнас і Юлія Новік чыталі свае вершы на беларускай і французскай мовах. А студэнты другога курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў выканалі музычны нумар — вядомую французскую песню “Sur le pont d’Avignon”, але з дадаткамі на беларускай мове.

Выстаўка натхнёная не толькі рамантызмам, але і іншымі плынямі мастацтва ў еўрапейскай культуры канца XIX стагоддзя. У экспазіцыі прадстаўлена каля пяцідзесяці работ мастакоў розных пакаленняў і творчых кірункаў, якія жывуць у Беларусі і Францыі. Сярод іх — Фёдар Ястраб, Яўген Шунейка, Ірына Котава, Юрый Падолін, Ігар Гарбуноў, Людміла Налівайка, Карына Харанека, Святлана Шалай, Уладзімір Рынкевіч, Вольга Мельнік, Аляксандра Кімейша, Аляўціна Башкатава, Дар’я Мароз-Карат, Зміцер Шапавалаў і інш.

Акрамя персанальных твораў аўтары прадставілі калектыўную работу — інсталяцыю на тэму французскай граматыкі “Знайдзі свой дзеяслоў”. Наведвальнікі змаглі далучыцца да “ажыўлення” кампазіцыі і атрымаць падарункі ад мастакоў.

***На здымках: Людміла Налівайка “Карнавал”; Яўген Шунейка “Маркітантка Вікторыя падчас бітвы”.***

# Аб’яднаныя талентам

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Адразу дзве персанальныя выстаўкі мастакоў — скульптуры Аляксандра Козела і графікі Міхаіла Сенькіна, прымеркаваныя да 60-годдзя творцаў, адначасова адкрыліся ў адной з залаў Палаца мастацтва. Паводле слоў намесніка старшыні Беларускага саюза мастакоў па выставачнай дзейнасці Сержука Цімохава, гэта ўжо другі падобны праект, пэўны эксперымент, калі двух мастакоў спалучаюць у адно цэлае. Першая такая выстаўка аб’яднала работы скульптара Валерыя Калясінскага ды сцэнографа, жывапісца Яўгена Ждана.**





Аляксандр Козел прадставіў каля дваццаці сваіх твораў. Яны розныя па тэматыцы і гадах стварэння: “Роздум”, “Вандроўнік”, “Ахвяраванне”, “Маска”, “Дзень і ноч”, “Дуэт”… Шчымлівыя, трапяткія, спрэчныя пачуцці і боль выклікае новая работа, побач з якой ускладзены жывыя кветкі, прысвечаная нядаўняму тэракту ў метро, — “Зло № 11.04.2011”.

Як зазначыла член бюро секцыі скульптуры БСМ Алена Хараберуш, Аляксандр Іванавіч працуе з адметным, рэдкім для Беларусі матэрыялам — мармурам. Ён актыўны творца, удзельнічае ў шматлікіх выстаўках, пленэрах, фестывалях архітэктуры. Да таго ж, піша казкі, аповесці, п’есы і друкуецца ў айчынных выданнях, прыкладам, у часопісах “Маладосць” і “Вожык”.

Аўтарству Аляксандра Козела належаць такія скульптуры, як “Галгофа” (царква Марыі Магдаліны, Мінск, а таксама ў в. Задомля Смалявіцкага раёна і ў самім г. Смалявічы Мінскай вобласці), “Папараць-кветка” (“Піянерскі парк”, Гомель), “Роздум пры свячах” і “Успамін” (Магілёў), “Чаканне мацярынства” (г. Люберцы, Маскоўская вобл.)… Таксама ім выкананы мемарыяльныя партрэтныя выявы народных артыстаў Беларусі Паўла Дубашынскага і Ліліі Давідовіч, паэта Алега Лойкі і шмат іншых.

Міхаіл Сенькін скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці “Мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва”, удзельнік усесаюзных, рэспубліканскіх, рэгіянальных і міжнародных выставак. Яго работы знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Германіі, Польшчы, ЗША, Швецыі.

Старшыня творчага аб’яднання “Верасень”, мастацтвазнаўца Ніна Паўлаўна Марчанка адзначыла, што Міхаіл Уладзіміравіч вельмі сціплы чалавек. У дадзенай экспазіцыі ён раскрывае сваю творчасць вельмі шырока ў розных кірунках: сюррэалізм, фармалізм, сімвалізм. А пачынаў сваю дзейнасць Міхаіл Сенькін як мастак-ілюстратар. Зрабіў ілюстрацыі да твораў сусветна вядомых пісьменнікаў: Дзюма, Бальзака, Гарсія Лоркі, Саймака, Булычова, Азімава… Таксама афармляў казкі розных народаў свету.

У сваю чаргу мастак Сяргей Волкаў пашкадаваў, што кніжнікаў засталося вельмі мала: яны перайшлі хто ў жывапіс, хто ў акварэль.

У экспазіцыі прадстаўлены як асобныя работы, так і розныя серыі. Прыкладам, каларыстычныя або стрыманыя ў фарбах, складаныя па кампазіцыі, адмысловыя творы, выкананыя гуашшу, — “Даліна сучаснага танца”, “Маякі на моры і на сушы”, серыя “Дванаццаць”, “Сінія цені”, “Красавік”, “Камедыянты”, “Сны шутоў”…

Здавалася б, такія адрозныя віды мастацтва, як скульптура і графіка, не маюць нічога агульнага ні па тэхніцы, ні па ўжытых матэрыялах. Але на выстаўцы работы Аляксандра Козела і Міхаіла Сенькіна не супрацьпастаўляюцца, а, наадварот, дапаўняюць адна адну, ствараючы суцэльную панараму. Таму што іх аб’ядноўвае талент, шчырасць і праўдзівасць аўтараў.

***На здымках: Аляксандр Козел “Зло № 11.04.2011”; Міхаіл Сенькін “Маякі на моры і на сушы”.***

# Свой почырк

Пятро МАСКАЛЁЎ

**Вольны мастак — гэта не пра яго. Ягоная воля — гэта магчымасць штодзень весці размову з чытачом і гледачом. Таму што Алег Карповіч мае рэдкі, а таму цяпер і даволі прэстыжны статус мастака газетнага. Прычым вельмі запатрабаванага.**

Яго творчы почырк ведаюць, бадай што, усе, хто хоць раз адкрываў газету “СБ. Беларусь сегодня”. Ці не ў кожным нумары ёсць арыгінальныя малюнкі Алега пад фірменнай рубрыкай “Ёсць пытанне”. “Як ідэі прыходзяць, як хапае вам запалу кожны дзень тварыць?” — такія пытанні часта бываюць да мастака ў людзей, не знаёмых са спецыфікай працы ў штодзённым выданні. Прадстаўляючы творцу на яго выстаўцы ў Міністэрстве замежных спраў, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны таксама прапанаваў Алегу Карповічу расказаць, як арганізавана яго праца.

“Складанага тут анічога няма, — падзяліўся досведам майстар. — Як рабочы на завод — так і я ў рэдакцыю прыходжу. Як у працаўнікоў у полі штодзень розныя клопаты, якія ад сонца, надвор’я, паравіны года залежаць, так і ў мяне нішто не паўтараецца. А работа ў рэдакцыі — гэта і творчасць, і адначасова вытворчасць цікавай газеты. Бывае, затрымліваюся там да позняга вечара. І хоць не маю тых “хвілін нічоганеробленняˮ, што здараюцца ў вольных мастакоў, ёсць іншая радасць: мая праца запатрабаваная. Прыемна, калі здолееў схапіць, адлюстраваць у малюнку рытм часу, спыніць імгненне”.

# Творы мастацтва з галінак і шчэпак…

Марыя ЖАБІНСКАЯ

**Паколькі Генеральная Асамблея ААН абвясціла гэты год Міжнародным годам лясоў, то ёсць нагода ўзгадаць, што беларускія таленавітыя ўмельцы здольны ствараць шэдэўры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва нават з "ляснога смецця", выкарыстоўваючы галіны дрэў, лісце, карэнні, карчы, грыбы, мох.**

Такі від народнай творчасці дужа актыўна заявіў пра сябе ў рэспубліцы ў 80-я гады ХХ стагоддзя, таму невыпадкова апісаны ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", (том 5) пад тэрмінам "Лясная скульптура", дзе пазначана 28 умельцаў. А за кожным прозвішчам паўстаюць творчыя людзі — рознага ўзросту, адукацыі, сацыяльнага становішча. Напрыклад, С. Станюта — вядомая беларуская актрыса; В. Ульянаў — доктар; Л. Чарняўскі — настаўнік, былы франтавік, хоць на вайне страціў руку, але і з адной майстраваў з карчоў цудоўныя скульптурныя выявы на гумарыстычныя тэмы. Памятаю, менавіта яго работы на рэспубліканскіх выстаўках падахвоцілі многіх наведвальнікаў паспрабаваць сябе ў гэтым відзе творчасці.

Знаходкі Л. Чарняўскага трапілі ў прыдатную раллю таму, што ў тыя часы жыхарамі сталіцы сталі многія з тых, хто пераехаў з сельскай мясцовасці, ім лёгка прыгадаліся дзедаўскія вырабы з лясных матэрыялаў: кашы, вярэнькі, лапці… Свісток з лазовай кары значыўся першым інструментам, з якога пачыналася музычная адукацыя вясковых дзетак. А тыя невялічкія беленькія хаткі, якія сёння яшчэ магчыма пабачыць у Крэве ці ў вёсцы Завозерцы таксама Смаргонскага раёна, зроблены не з бярвёнаў — пры іх будаўніцтве выкарыстоўвалі сасновае галлё, закладвалі ў апалубку, залівалі рэдкім растворам гліны… Дзівавацъ такой пабудове няма чаго — лясы некалі лічыліся панскімі, сялянам даводзілася выкарыстоўваць гэтак званае "лясное смецце". Увогуле, у адрозненне ад многіх народаў свету беларусы могуць пахваліцца не толькі лясамі, але і старажытнымі традыцыямі вырабу рэчаў з лясной сыравіны.



А паколькі з тых 1980-х гадоў, калі рыхтаваўся артыкул для энцыклапедыі, прайшло шмат часу, то я вырашыла пацікавіцца, хто з названых майстроў і сёння ў творчасці выкарыстоўвае лясныя матэрыялы. Выбрала наўздагад К. Новікаву-Лесавік і пазваніла майстрысе. На маё пытанне Кацярына Фёдараўна адказала, што ў яе камп'ютар занесена каля тысячы самастойна складзеных кампазіцый, і запрасіла наведацца, пабачыць.

Для Новікавай яе радзіма — вёска Шапялёўка Горацкага раёна, сёння няма патрэбы сноўдаць па лесе, назбіранага раней дастаткова, да таго ж неабходнае знаходзіць і на лецішчы. А вось калі характарызаваць сучасны кірунак у яе творчасці, то адбыліся значныя змены. Цяпер Кацярына Фёдараўна не вышуквае ў знойдзеным трухлявым пні скульптурны вобраз, каб узнавіць тое, што не паспела ці не захацела зрабіць сама прырода, а draўляную знаходку аздабляе жывымі краскамі — смелае, экстравагантнае вырашэнне. А паколькі ў такой кампазіцыі дамінанта належыць краскам, а не дрэву, то яе творчасць падпала пад іншы тэрмін — "фларыстыка".

З мастацтвам складання кампазіцый з кветак — фларыстыкай — яна пазнаёмілася ў 1990-х гадах у Маскве падчас японскай выстаўкі ікебаны. У 2003-м на Міжнароднай выстаўцы, якая праходзіла ў Пецярбургу, атрымала прэстыжную прэмію. Мела шчасце пабачыць падобную выстаўку ў Парыжы ў 2004 годзе. Гэтым летам рыхтуецца паказаць персанальную ў Мінску з жывых красак і здымкаў.

Калі ўпершыню пачула ад Новікавай, што ў Японіі па тым, як складзены букет, госць адразу разумее, шчасце ці смутак у жыцці гаспадара, то, улічваючы мае этнаграфічныя запісы падчас былых экспедыцый, прадстаўляецца магчымасць узгадаць, што ў фларыстыцы беларусаў ёсць тоеснае, а нешта і розніца з той далёкай усходняй краінай.

Што да букета, то ў беларусаў ён не перадае нейкі пэўны знакавы сэнс. Многія жыхары вёсак рупіліся перад святам паставіць на стол, пад абразы, букет у гліняным гарлачыку або місачцы, талерцы. А калі ў апошніх, то раскладвалі расліны кругам, пасярэдзіне прыціскалі каменьчыкам, налівалі ваду, за ноч кветачкі прыўзнімалі галоўкі, ствараючы вобраз квітнеючага куста.

У этнаграфіі беларусаў меў свой глыбокі сэнс вяночак. Напрыклад, зялёны



вяночак з мірту на маладой падчас вяселля — знак цнатлівай дзяўчыны. У некаторых рэгіёнах Беларусі пачынаючы з дня святога Міколы пастух плёў вянок з галінак, уплятаў лясныя ці лугавыя кветкі, вешаў на рогі карове: та меўся знак гаспадыні — ёй трэба парупіцца адціснуць сыр і назаўтра перадаць пастуху. Таксама пэўны глыбокі сэнс заказдіраваны ў тых вяночках, якія магчыма пабачыць у сенцах вёскі Моталь Іванаўскага раёна. Гэта зёлкі, якія збіралі ў лесе, на лузе перад днём святога Яна. Звіўшы ў вянок, неслі ў царкву свяціць. Пры патрэбе расліну вымалі, запарвалі, а калі ж расліны за год не выкарыстоўвалі для лекаў, то вянок не выкідалі, а падчас пахавання клалі памерламу пад галаву.

Увогуле, лясныя галінкі, кветкі, шчэпкі і велічныя дубы, палявыя кволыя валошкі — гэта таемная кніга мясцовай флоры, раскрытая Уладаром Сусвету перад вачыма тутэйшых жыхароў. А калі гэты свет здольны люстрыцца ў душы чалавека, той стварае творы мастацтва, як і Кацярына Новікава — таленавітая, жыццярадасная, прывабная кабета.

***На здымках: работы К. Новікавай-Лесавік "Каля роднай хаты", "Папараць-кветка".***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Афарызм

*Ёсць адзіна годны шлях: служыць айчыне да крывавага поту, не чакаючы ўзнагароды ад людзей і лёсу, проста таму, што іначай нельга.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Таленавіты чалавек

Буда-кашалёўскі пенсіянер Барыс Адашкевіч па-майстэрску упрыгожыў свой дом разнымі фігурамі і арнаментамі. Прахожыя міжволі спыняюцца, каб палюбавацца гэтым казачным церамком. Нават і не прыйдзе ў галаву, што майстра-гаспадар не мае мастацкай адукацыі.

Барыс Якаўлевіч шмат гадоў працаваў у школе настаўнікам фізкультуры. Заўсёды бадзёры, заўсёды за здаровы лад жыцця, ён прывіў любоў да спорту многім сваім вучням. А яшчэ даказаў уласным прыкладам, што чалавек можа і павінен развівацца ўсебакова.

Акрамя спорту і разьбы па дрэве мае Барыс Якаўлевіч яшчэ адну прыхільнасць — складае вершы. Піша на рускай мове. У 1997 годзе ў Мінску быў выдадзены першы зборнік яго вершаў "Дзённік душы і сэрца". Пазней яшчэ два: "Вершы як споведзь паэта" і "Два сэрцы на вятры". А зусім нядаўна пабачыў свет чацвёрты зборнік Адашкевіча — "Зачараваны музыкай жыцця", у якім сабрана каля 700 вершаў: пра жыццё, прыроду, каханне, радзіму. Кніга ўжо карыстаецца попытам сярод землякоў Барыса Якаўлевіча.

Сапраўды таленавітыя людзі таленавіты ва ўсім.

**Максім ПАЛЯШУК**

# Дзецям Беларусі

У год свайго 55-годдзя Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь распачаў праект "Тэатр юнага гледача — дзецям Беларусі".

Праект заснаваны для папулярызацыі тэатра і мусіць паўплываць на захаванне творчай формы трупы, а таксама спрыяць шчыльнаму знаёмству з гледачамі па-за межамі сталіцы. Першы спектакль ужо прайшоў у Смаргоні. На бліжэйшы час "пазамежжа" акрэсліліся Гародняй, Лідай, Пінскам, Горкамі і Любаняю. Што да спектакляў, дык для знаёмства абраны найлепшы — "Брык і Шуся шукаюць лета". Падчас гастроляў запланаваны шэраг творчых сустрэч з вядучымі акцёрамі тэатра, першыя замоўлены з паэтам і драматургам Таццянай Сівец, аўтарам тюгаўскага сцэнічнага бестселера.

Праект "Тэатр юнага гледача — дзецям Беларусі" працягнецца тры гады. 14 мая ўслед за "Брыкам і Шусяй..." да дзяцей рыхтуецца выйсці "Кот у ботах" (п'еса Мікалая Шувалава паводле казкі Шарля Пэро) у пастаноўцы рэжысёра Венедыкта Расстрыжэнкава. "Кот у ботах" ажыццёўлены па шматлікіх просьбах маленькіх гледачоў тэатра, а таксама іхніх бацькоў, якія згадваюць аднайменны спектакль 1981 года ў рэжысуры Віргінія Тарнаўскайтэ з народным артыстам Беларусі Міхаілам Пятровым у ролі Ката. У новым спектаклі гэтую ролю выканае Сяргей Марговіч, для акцёра яна стане першай вялікай працай у ТЮГу.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**





**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад — 3022
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 28.04.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2096
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686